



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

28 жніўня 2020 года №35 (1322)

18+


# У Маладзечне пахавалі Мікіту Крыўцова





**Маладзечанец Мікіта Крыўцоў знік 12 жніўня. Яго знайшлі павешаным у Мінску 22 жніўня. Следчы камітэт паведамляе, што на целе не было слядоў крымінальнага характару. Сваякі і сябры не вераць у самагубства.**

**Мікіта ўдзельнічаў у мірных пратэстах пасля выбараў у Маладзечне і Мінску. Ён быў фанатам ФК «Маладзечна». У яго засталася 5-гадовая дачка.**

**На развітанне з Мікітам Крыўцовым прыйшло некалькі соцень чалавек.**

старонка 5

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## «Пацярпелым варта тэрмінова звяртацца па дапамогу»

старонкі 18-19

## Гісторыя бел-чырвона-белага сцяга

старонка 17







## Што думаюць бацькі і настаўнікі пра сёлетні Дзень ведаў

старонка 2

## Як і за што затрымлівалі вілейчукоў 9 жніўня

старонка 8

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## Мінздароўя рэкамендуе, як пачаць навучальны год у каронавірус

У Міністэрстве аховы здароўя апублікавалі метадычныя рэкамендацыі пра тое, як наладзіць адукацыйны працэс ва ўмовах пандэміі каронавіруса.

Перад пачаткам навучальнага года ва ўстановах адукацыі павінны распрацаваць і зацвердзіць план супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў.

Рэкамендуюць па магчымасці павялічыць на пяць хвілін перапынкі і перазменкі, каб часцей праветрываць кабінеты. У школах максімальна размежаваць дзве змены.

Размяжоўваць вучняў рэкамендуюць у гардэробах, сталовых, калідорах. Не праводзіць масавыя мерапрыемствы, сумесныя паездкі, культпаходы.

Па магчымасці не карыстацца агульным абсталяваннем (навушнікамі, камп'ютарамі) у лінгафонных кабінетах. Калі гэта немагчыма – дэзынфіцыраваць абсталяванне.

Таксама спецыялісты Міністэрства выступаюць за абмежаванне ці забарону бацькоўскіх сходаў, педсаветаў, дзе збіраецца больш за пяць чалавек. Нарады раяць праводзіць у выглядзе відэаканферэнцый.

За кожным класам варта замацаваць асобны кабінет, абмяжоўваць наведванне ўстаноў сваякамі вучняў.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя.**

## Колькі плаціць за карыстанне падручнікам

У 2020/2021 навучальным годзе камплект падручнікаў для школьнікаў 1-11 класаў абыдзецца бацькам у **13,5 рубля.** Кошт карыстання навучальнымі дапаможнікамі рэгулюецца пастановай Савета Міністраў №621.

**Паводле government.by.**

# Што думаюць бацькі і настаўнікі пра сёлетні Дзень ведаў і школу

МАЛАДЗЕЧНА

**У апошнія тыдні лета адны настаўнікі выходзяць на акцыі пратэсту, іншыя – на мітынг у падтрымку Аляксандра Лукашэнкі. А між тым хутка пачнецца 2020/2021 навучальны год. Што думаюць пра сёлетні Дзень ведаў і пра школу настаўнікі і бацькі?**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Сёлета не ва ўсіх бацькоў ёсць жаданне набываць кветкі для настаўнікаў і плаціць унёскі на паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы.

### Настаўніца: Калі няма грошай – ісці ў дзяржаўную школу і трымацца праўды

**Ларыса Сапач** выкладае беларускую мову і літаратуру ў Маркаўскай сярэдняй школы. Вось яе думка:

– Весці ці не весці дзіця ў школу – гэта справа бацькоў і дзяцей. Калі няма даверу да настаўнікаў, можна дабівацца індывідуальнага навучання. Ёсць ініцыятыва «Свабодная школа», але там навучанне платнае. Калі грошай няма, то варта ісці ў дзяржаўную школу і трымацца праўды. У школе працуе шмат годных настаўнікаў. Трымайцеся іх.

### Настаўніца – на мітынгу: Могуць быць канфлікты па палітычных матывах

На адным з мітынгаў у Маладзечне выступіла былая настаўніца, спадарыня Алена. Раней яна выкладала фізіку ў маладзечанскай школе №11. Педагагічны стаж – 35 год.

– Я сышла са школы, крыху не дапрацаваўшы да пенсіі. Працаваць у гэтай савецкай сістэме ўжо было немагчыма. Тут не камфортна ні настаўнікам, ні вучням. Хаця б узяць прымусовую падпіску на газеты. Мяне вельмі турбуе, што хутка пачнецца навучальны год. Дзеці пойдуць у школу. Будуць канфлікты паміж настаўнікамі і бацькамі па палітычных матывах. Як вырашыць гэты канфлікт? Лічу, што толькі бацькам з дзецьмі трэба вырашаць, ці хадзіць на ўрокі да нейкага педагога. Можна ж напісаць заяву. Але ж дзецям трэба здаваць экзамены. Лічу, што экзамены павінна прымаць камісія, створаная з сумленных настаўнікаў. Напрыклад, з настаўнікаў пятай школы, або з тых, хто не працаваў у выбарчай камісіі.

### Мама школьніцы: Дарыць кветкі зусім не хочацца

Пра тое, якія думкі турбуюць бацькоў перад пачаткам навучальнага года, мы распыталіся ў маладзечанкі **Вольгі Шокель**:

– 1 верасня, калі шчыра, кветкі дарыць зусім не хочацца. Ніхто школай цяпер не ганарыцца. Мая дачка ходзіць у пачатковую школу гімназіі-каледжа мастацтваў. Не ведаю, ці былі задзейнічаныя настаўнікі пачатковых класаў у выбарчых участках? Але педагогамі вельмі расчараваная.

Настаўнік – сацыяльная значная прафесія. Калі мы аддаём дзіця ў школу, то спадзяёмся, што там яго навучаць дабрыні, маралі, сумленнасці. А на самой справе атрымліваецца зусім не так. Дырэктараў школ увогуле каментаваць не хочацца. Настаўнікі скардзяцца, што іх прымусілі, але ў той момант яны думалі не пра будучыню дзяцей, а пра сваё наседжанае месца.

Настаўнікі кажуць, што, калі б не падпарадкаваліся, іх бы звольнілі. Але ніхто б не звольніў такую колькасць настаўнікаў, іх проста не было б кім замяніць. Так што педагогі праявілі маладушша і паставілі на першы план матэрыяльныя выгоды. Многія бацькі думаюць гэтак жа, але баяцца выказвацца. Таму баяцца, што з-за гэтага пасля настаўнікі будуць адыгрывацца на дзецях. А так яно і будзе. Бо што спыніць педагогаў пайсці далей? А ўлічваючы апошняе выступленне Лукашэнкі пра тое, што ў школах павінны застацца толькі тыя настаўнікі, якія падтрымліваюць яго ідэалогію, то страшна падумаць, хто і чаму будзе вучыць дзяцей.

Сярод бацькоў у Маладзечне была думка не весці дзяцей на лінейку, таму што да педагогаў няма даверу. Калі б ідэю масава падтрымалі, я далучылася б. Дакладна магу сказаць, што не буду плаціць унёскі на матэрыяльна-тэхнічную базу. У мінулым годзе на адно дзіця сплаціліі 75 рублёў. Уявіце, якой сумы пазбавіцца школа.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Аксана ЯРАШОНАК.**

# Работнікі «Маладзечнамэблі» падпісалі зварот да старшыні выканкама

## Гэта большая частка тых, хто працуе на прадпрыемстве

МАЛАДЗЕЧНА

**21 жніўня 302 работнікі ЗАТ «Маладзечнамэбля» падпісалі зварот да старшыні Маладзечанскага райвыканкама Юрыя Горлава. Тады на прадпрыемстве працавала 410 чалавек.**



Член ініцыятыўнай групы Аляксандр Бадзін (на пярэднім плане) і работнік «Маладзечнамэблі» Уладзімір Станевіч каля будынка Маладзечанскага райвыканкама.

### З чым звяртаюцца

«Мы, работнікі ЗАТ «Маладзечнамэбля», вельмі занепакоеныя палітычнай сітуацыяй у нашай краіне, жадаем хутчэйшага вырашэння канфлікту, устанаўлення міру, справядлівасці, выканання заканадаўства; для гэтага патрабуем выканання наступнага:

Прызнаць несапраўднымі вынікі выбараў 9 жніўня 2020 года ў сувязі з вялікай колькасцю парушэнняў, дапушчаных на ўсіх этапах выбарчай кампаніі.

Правесці дэмакратычныя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, выключаючы факты фальсіфікацыі, пры ўдзеле назіральнікаў ад працоўных калектываў і прадстаўнікоў міжнародных арганізацый.

Вызваліць затрыманых на акцыях пратэсту і палітзняволеных, зняўшы ўсе абвінавачанні.

Спыніць пераслед удзельнікаў мірных акцый пратэсту сілавымі структурамі, не дапусціць прымянення розных санкцый да работнікаў, якія выказваюць свае палітычныя погляды.

Асвятляць у СМІ рэальныя падзеі ў краіне.

Прыцягнуць да адказнасці асоб, якія маюць дачыненне да затрымання мірных грамадзян і здзекаў з затрыманых».

Зварот ад прадпрыемства прынёс супрацоўнік **Уладзімір Станевіч**:

– Зварот падпісала вялікая частка нашых супрацоўнікаў. З тых, хто працаваў сёння, гэта 73,7%, – кажа Уладзімір. – Людзі стаялі ў чарзе, каб падпісацца. Асабліва шмат было жанчын. У мяне часам пытаюцца, ці не баюся я наступстваў за тое, што адкрыта выказваю сваю пазіцыю. Так, у мяне маленькая ўнучка. Мне хацелася б цешыцца з яе, гадаваць яе. Але і глядзець на тое, што адбываецца, я спакойна не магу, – падзяліўся Уладзімір.

### Перадаць зварот асабіста старшыні не змаглі

Пакуль Уладзімір Станевіч і член ініцыятыўнай групы **Аляксандр Бадзін** стаялі на ганку Маладзечанскага райвыканкама, з яго выйшаў старшыня **Юры Горлаў**. Мужчыны звярнуліся да старшыні, але адказу не атрымалі. Горлаў сеў у машыну і з’ехаў.

У райвыканкаме супрацоўніца прыняла зварот. Сказала пачакаць, пакуль дакумент зарэгіструюць.

Як расказаў журналісту Уладзімір Станевіч, работнікі выканкама патлумачылі, што ў афармленні дакумента ёсць пэўныя недакладнасці. Таму прыняць зварот могуць толькі як ад фізічнай асобы. Уладзімір параіўся з кіраўніком прадпрыемства і юрыстам і падаў зварот ад сябе асабіста. Па словах Станевіча, зварот работнікаў у райвыканкам падтрымала і кіраўніцтва прадпрыемства, і прафсаюз.

У выканкаме паведамілі, што адказ дадуць на працягу месяца. Паабяцалі не зацягваць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

### Лукашэнка даручыў зачыніць усе бастуючыя прадпрыемствы

Такую заяву Аляксандр Лукашэнка зрабіў, выступаючы на мітынгу сваіх прыхільнікаў у Гродне.

«Я прашу губернатара, старшынь выканкамаў, калі хтосьці не хоча працаваць – не прымушайце. Не трэба. Мы іх усё роўна не прымусім і не ўгаворым. Але калі прадпрыемства не працуе – з панядзелка замок на вароты. Спынім», – сказаў Лукашэнка.

**Паводле interfax.ru.**



**ЛІЧБА НУМАРА**

**114 000**

першакласнікаў пачнуць заняткі ў школах і гімназіях Беларусі ў 2020/2021 навучальным годзе

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.08 | 20.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.4695 | **2.6483** |
| Еўра | 2.9485 | **3.1286** |
| Злоты, 10 | 6.7121 | **7.1016** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3713 | **3.5062** |
| Грыўня, 100 | 9.0293 | **9.6453** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 12.08 | 19.08 |
| Еўра | 2.9000/3.0100 | **3.1300/3.2150** |
| Долар ЗША | 2.4600/2.5500 | **2.6500/2.7290** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 12.08 | 19.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | **20,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **1,70** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **1,80** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,30 | **1,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Буракі, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 2,40 | **2,40** |
| Перац, 1 кг | 3,70 | **4,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| Вінаград, 1 кг | 5,70 | **5,70** |
| Грушы, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Персікі, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Чарэшні, 1 кг | – | **–** |
| Яблыкі, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 16,00 | **16,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Мінчанін, які пабіў работніка ДАІ ў Ілы, атрымаў два гады калоніі

ВІЛЕЙКА

20 жніўня агучылі прыгавор 35-гадоваму жыхару сталіцы, які абражаў, а потым удары ў работніка ДАІ пры выкананні службовых абавязкаў у Ілы. Здарэнне адбылося сёлета, 8 сакавіка.

Нагадаем, увечары 8 сакавіка ў Вілейскі РАУС паведамілі, што ў Ілы за рулём машыны едзе меркавана нецвярозы кіроўца.

Работнікі ДАІ выехалі на месца і знайшлі аўтамабіль ля парку па вуліцы Савецкай. Адзін з пасажыраў машыны спачатку абражаў работніка ДАІ, пагражаў яму, а потым стукнуў па галаве. На неаднаразовыя папярэджанні пра магчымае прымяненне фізічнай сілы, спецсродкаў і агнястрэльнай зброі мужчына не адрэагаваў.

Рушылі ўслед тры папераджальныя стрэлы ў паветра, а затым – прыцэльны ў нагу. Медыкі аказалі мужчыну першую дапамогу.

Ён быў шпіталізаваны, выстаўлены канвой. Утрыманне алкаголю ў паветры склала 1,48 праміле.

Як расказала памочнік пракурора Вілейшчыны **Наталля Стрэж**, пасажыра-парушальніка судзілі па артыкуле 364 Крымінальнага кодэкса – гвалт або пагроза прымянення гвалту ў адносінах да работніка ўнутраных спраў.

Аказалася, што фігурант ужо быў судзімы па артыкуле 317 – парушэнне правіл дарожнага руху – і на момант здарэння ў Ілы меў непагашаную судзімасць.

Падчас суда мужчына не адмаўляў сваю віну. Аднак казаў, што ён нічога не памятае.

Суд прызнаў фігуранта вінаватым. І прызначыў пакаранне – тры гады ў калоніі агульнага рэжыму. Аднак з улікам амністыі, што была сёлета ў маі, тэрмін зменшылі да двух гадоў. Прыгавор не ўступіў у сілу і можа быць абскарджаны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## ДАІ шукае сведак дзвюх жнівеньскіх аварый

МАЛАДЗЕЧНА

ДАІ шукае сведак і відавочцаў дзвюх аварый, што здарыліся ў жніўні.

1 жніўня каля пяці гадзін вечара адбылося ДТЗ ля павароту на Мароські. Пацярпеў раварыст. 40-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна кіраваў аўтамабілем «Хонда» і ехаў па вуліцы Купалы ў Лебедзеве з боку Маладзечна па трасе Р-106. На скрыжаванні вуліц Янкі Купалы і Кастрычніцкай, побач з паваротам на Мароські, аўтамабіль наехаў на раварыста – 35-гадовага жыхара Маладзечаншчыны. Раварыст ехаў злева направа па ходу руху, выехаў на скрыжаванне, дзе яго і збіла машына

7 жніўня каля восьмі вечара здарылася аварыя ў Маладзечне, у пачатку Вялікага Гасцінца. 19-гадовы кіроўца, жыхар вёскі Мароські, на машыне «Рэно-19» ехаў па Вялікім Гасцінцы ў кірунку Смаргоні. У крайняй правай паласе руху, побач з домам №2, наехаў на 47-гадовую маладзечанку, якая пераходзіла дарогу па нерэгуляваным пешаходным пераходзе злева направа па ходу руху аўто. Пацярпелую шпіталізавалі ў рэанімацыю Маладзечанскай ЦРБ. Раварыст атрымаў цялесныя пашкоджанні.

Просьба сведак і відавочцаў дадзеных здарэнняў звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: Маладзечна, вуліца Т. Дудко, 1–18 або па тэлефонах: (8-0176) 74-53-40, 74-53-43 альбо 102.

**Дыяна ГАЛУЗА,**
**АДАІ Маладзечна.**

## Мужчыну падазраюць у падпале дома

МАЛАДЗЕЧНА

Днямі ў Маладзечанскі РАУС ад ратавальнікаў паступіла інфармацыя аб узгаранні ў жылым доме ў вёсцы Засценкі. На месца здарэння выбыла следча-аператыўная група.

Падчас агляду ўстанавілі, што ўзгаранне пабудовы адбылося не выпадкова – жыллё падпалілі. Праваахоўнікі сталі высвятляць абставіны здарэння і выйшлі на след мужчыны, які мог быць датычны да здзяйснення злачынства.

Як высветлілася, у той вечар у двары ў суседзяў было застолле са спіртным. Відавочцамі сталі 47-гадовы мясцовы жыхар, ён жа пацярпелы, і яго жонка, якія праходзілі міма. Паміж апошняй і гаспадыняй пачалася сварка. Канфлікт не зайшоў далёка, але за інцыдэнт вырашыў адпомсціць адзін з удзельнікаў застолля.

Па наяўнай інфармацыі, 43-гадовы жыхар гарадскога пасёлка Радашкавічы ў пэўны момант адлучыўся ад застолля. Нецвярозы мужчына падкраўся да дома пацярпелых і з дапамогай запальнічкі падпаліў заднюю сцяну жылля, зашытую рубероідам. Пасля чаго зламыснік вярнуўся ў кампанію і працягваў гутарку з сябрамі.

**Паводле**
**УУС Мінаблвыканкама.**

# За куст канапель віляйчук сядзе на два гады

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**19 жніўня ў Вілейскім судзе агучылі прыгавор 41-гадоваму мясцоваму жыхару. Яго абвінавацілі ў незаконным захоўванні і збыце наркотыкаў, расказала карэспандэнту памочнік пракурора Вілейшчыны Наталля Стрэж.**



Прыгавор яшчэ можа быць абскарджаны.

Пачалося ўсё ў 2019 годзе, калі мужчына на ўскрайку лесу ў Вілейскім раёне сарваў куст канапель. Ён прынёс расліну дамоў, высушыў і захаваў, ведаючы пра тое, што захоўае наркатычны сродак – марыхуану. Частку парашку мужчына трымаў дома, частку – у гаспадарчай пабудове.

Сёлета, 27 лютага, ён прадаў частку марыхуаны жыхару Маладзечна.

На судзе мужчына цалкам прызнаў віну. Збыт наркотыку раслумачыў цяжкім фінансавым станам сям'і.

Па словах Наталлі Стрэж, суд улічыў раскаянне фігуранта і тое, што ў яго ёсць малалетнія дзеці.

Мужчыну асудзілі па частцы 2 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса. Прысудзілі тры гады ў калоніі строгага рэжыму без штрафу. З улікам амністыі, што была ў маі, атрымалася два. Акрамя таго, фігурант будзе лячыцца ад хранічнага алкагалізму.

Прыгавор не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ад 25 жніўня да 5 верасня ДАІ праводзіць акцыю «Увага! Дзеці». Уключыце фары!

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 25 жніўня да 5 верасня Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна праводзіць спецыяльны комплекс мерапрыемстваў «Увага! Дзеці».**

У рамках яго пад дэвізам «Будзь прыкладам свайму дзіцяці!» 28 жніўня правядуць адзіны дзень бяспекі дарожнага руху.

Дзяржаўтаінспекцыя і прадстаўнікі адукацыі ў рамках тыдня бяспекі дарожнага руху сустрэнуцца са школьнікамі і іх бацькамі, каб пагаварыць пра важныя пытанні, якія тычацца правільных і бяспечных паводзін на вулічна-дарожнай сетцы, у аўтатранспарце.

У час спецыяльнага комплекснага мерапрыемства «Увага! Дзеці» пры руху ў светлы час сутак неабходна ўключаць блізкае святло фар, альбо дзённыя хадавыя агні (пры іх наяўнасці).

За парушэнне гэтага патрабавання, прадугледжанага п.166.9 ПДР, у адносінах да кіроўцаў прымяняецца адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з часткай 3 артыкула 18.14 КаАП Рэспублікі Беларусь.

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна зарэгістраваны 33 ДТЗ. У іх тры чалавекі загінулі, 38 атрымалі раненні рознай ступені цяжкасці. Тры ДТЗ адбыліся з удзелам нецвярозых кіроўцаў. З удзелам непаўналетніх на бягучы перыяд зарэгістравана шэсць ДТЗ. У іх шэсць дзяцей атрымалі цялесныя пашкоджанні. Пяць удзельнікаў дарожнага руху – пешаходы і адзін – раварыст.

Асноўнымі памылкамі непаўналетніх пешаходаў, якія сталі прычынамі ДТЗ, з'явіліся:

пераход праз праезную частку па-за пешаходным пераходам;

пераход, нечаканы выхад з-за транспартнага сродку або іншых перашкод, якія абмяжоўваюць бачнасць кіроўцу;

знаходжанне на праезнай частцы без суправаджэння дарослых.

Дзяржаўтаінспекцыя звяртаецца да бацькоў. Неабходна на асабістым станоўчым прыкладзе выхоўваць у дзяцей навык няўхільнага выканання правілаў дарожнага руху, тлумачыць дзецям наступствы невыканання ПДР.

Шлях дзіцяці ў школу і назад дадому павінны быць бяспечны. Нагадайце асноўныя правілы паводзін на дарозе! Дамажыцеся таго, каб дзіця, знаходзячыся паблізу або на праезнай частцы, не размаўляла па тэлефоне і не слухала музыку ў навушніках, бо гэта адцягвае ўвагу.

Пазначце школьную сумку, вопратку дзіцяці святлоадбівальнымі элементамі. За неналежнае выкананне абавязкаў па выхаванні непаўналетніх бацькі могуць быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Дыяна ГАЛУЗА,**
**АДАІ Маладзечна.**

## Пасля застолля ўгналі «Жыгулі» і скралі залатыя ўпрыгажэнні

МАЛАДЗЕЧНА

На днях раніцай у Маладзечанскі РАУС паступіла паведамленне аб угоне «Жыгулёў» у 83-гадовага мясцовага жыхара. Праз некаторы час паступіла і заява пра крадзеж залатых рэчаў з кватэры маладзечанкі, якая жыве недалёка ад уладальніка ўгнанай машыны.

На працягу сутак праваахоўнікі знайшлі згарэлым скрадзены аўтамабіль на ўскраіне Маладзечна і раскрылі кватэрны крадзеж. Як аказалася, да абодвух злачынстваў магла быць датычная адна і тая ж кампанія.

Па словах трох таварышаў, усё пачалося напярэдадні вечарам на кватэры, дзе здарыўся крадзеж. Гаспадыня зладзіла застолле, на якое завіталі трое мужчын. Па заканчэнні кампанія пакінула кватэру. Падазраюць, што адзін з фігурантаў скраў золата гаспадыні, сумку з дакументамі і рэчамі. Прапажу не заўважылі.

Выйшаўшы на вуліцу, кампанія накіравалася ў бок свайго раёна. Прайшоўшы пару метраў, адзін з мужчын заўважыў белыя «Жыгулі». У яго меліся такія ж. Таму, калі ён сказаў таварышам, што машына яго і прапанаваў іх падвезці, тыя, па іх словах, нават не засумняваліся ў праўдзівасці слоў. Мужчына разбіў у дзвярах шкло і завёў, замкнуўшы правады стартара.

Пасля гэтай паездкі машыну і знайшлі згарэлай на ўскраіне Маладзечна – па словах мужчын, яна ўспыхнула з-за іх неасцярожнага абыходжання з агнём.

Па фактах крадзяжу залатых вырабаў і ўгону аўтамабіля пачалі крымінальныя справы.

**Паводле**
**УУС Мінаблвыканкама.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Сябры Мікіты Крыўцова на пахаванні.

# У Маладзечне пахавалі Мікіту Крыўцова

**Мікіту Крыўцова знайшлі мёртвым 22 жніўня пасля дзесяці дзён пошукаў. Ён быў дэманстрантам на мірных пратэстах пасля выбараў у Маладзечне і Мінску. Мікіту пахавалі на Старых могілках у Маладзечне 25 жніўня.**

### Хто такі Мікіта Крыўцоў?

Мікіта Крыўцоў нарадзіўся ў Вілейцы. Доўгі час жыў у Маладзечне, а потым пераехаў у Жодзіна. У Жодзіне ён жыў разам з жонкай. У Мікіты засталася 5-гадовая дачка. Крыўцоў з'яўляўся заўзятарам ФК «Маладзечна».

### Знікненне

Пра знікненне Мікіты Крыўцова паведаміла жонка Алена ў сваіх сацыяльных сетках 12 жніўня. Апошні раз яна размаўляла з ім у першай палове дня 11 жніўня. Толькі 22 жніўня Алене паведамілі, што цела Мікіты знайшлі ў лясным масіве ў Мінску. Па словах Алены, Мікіту знайшлі павешаным.

Пазней прэс-служба Следчага камітэта зрабіла заяву, у якой адзначыла, што на целе Крыўцова не было бачных пашкоджанняў. Таксама прэс-служба распавяла, што Мікіта і Алена збіраліся разводзіцца. У Следчым камітэце ўдакладнілі, што супраць Крыўцова не вялі адміністрацыйных спраў за ўдзел у несанкцыяніраваных масавых мерапрыемствах.

### Удзел у пратэстах

Карэспандэнты «РГ» працавалі на мірных пратэстах увечары пасля выбараў 9 жніўня. У рэдакцыі ёсць фота і відэасведчанні, што Мікіта Крыўцоў быў удзельнікам пратэсту ў Маладзечне.

9 жніўня на Цэнтральнай плошчы Маладзечна сабраліся людзі, якія выступілі супраць вынікаў выбараў і іх фальсіфікацыі. Крыўцоў знаходзіўся на плошчы некалькі гадзін. У яго ў руках быў бел-чырвона-белы сцяг, з якім ён стаяў насупраць шарэнгі міліцыянераў. Яшчэ некалькі здымкаў сведчаць аб тым, што Крыўцоў быў на плошчы да моманту разгону супрацоўнікамі АМАПа і маладзечанскай міліцыі. Мікіта стаяў у першым шэрагу разам з іншымі дэманстрантамі і трымаў вялікі бел-чырвона-белы сцяг.

Сябра **Арцём** распавёў на пахаванні, што апошні раз бачыў Мікіту 10 жніўня падчас пратэстаў на Нямізе ў Мінску.

### Пахаванне

25 жніўня на Старых могілках у Маладзечне Мікіту Крыўцова пахавалі побач з яго дзедам **Міхаілам Крыўцовым**. На развітанне і пахаванне Мікіты прыйшло не менш за паўтысячы чалавек. Паніхіду адслужыў айцец **Яўген Саўчук**.

Труну неслі да магілак пад бел-чырвона-белым сцягам на руках. На развітанні з Мікітам прысутнічалі прадстаўнікі фанацкіх суполак Беларусі з Брэста, Стоўбцаў, Смалявічаў, Мінска і іншых гарадоў.

– Пазнаёміліся мы на футболе, недзе ў 2008 годзе, – прыгадвае маладзечанскі фанат **Павел Малашка**. – Тады думалі, як упрыгожыць сектар, якімі зрабіць банеры і шалікі. Мікіта заўсёды быў прыветлівы, ён вельмі моцна нас згуртаваў, быў лідарам руху. Заўсёды меў шмат ідэй. Калі былі нейкія спрэчкі паміж фанатамі, імкнуўся згуртаваць. Быў душой кампаніі. Нават калі знікала жаданне ў каманды співаць і крычаць, усіх заводзіў, падымаў настрой. Мікіта быў чалавекам неверагоднай энергіі. Праехалі не адну тысячу кіламетраў на выездах з ім. Усе ведалі, што калі едзе Мікіта, будзе весела. У годзе 2010 не ва ўсіх на сектарах была беларуская мова, а ў нас ужо была сімволіка і малюнкі па-беларуску, і з яго падачы. Апошні раз мы бачыліся на выязным матчы 11 ліпеня. Яго жыццё было тут, у Маладзечне.



Маці Мікіты Крыўцова Анжэла Кухто і жонка Алена.



Бабуля Мікіты Зоя Фёдараўна Пугач.

Праваабаронца Беларускага Хельсінскага камітэта **Эдуард Баланчук** выступіў з апошняй прамовай перад пахаваннем Мікіты.

– Не ўзнікае сумнення, што Мікіту забілі жорстка. Як бы там нам не казалі следчыя, што ён сам сябе забіў, – гэта хлусня. Мікіта загінуў за вашу і нашу свабоду. Ён адзін з першых выйшаў на маладзечанскую плошчу з бел-чырвона-белым сцягам. Ён выйшаў з мірам, за свабоду, за справядлівасць. Такіх людзей адсочвалі, праследавалі. Наша памяць павінна быць вечнай. Герояў нясуць на руках. Горад будзе жыць, будзе развівацца. Мы знойдзем вуліцу, якую назавём у гонар Мікіты Крыўцова.

Бабуля Мікіты **Зоя Фёдараўна** пасля пахавання паразмаўляла з журналістамі. Жанчына расказала, што выхоўвала Мікіту ад пялюшак да вяселля, таму ўнук для яе такі родны:

– Яго палічылі страшным лідарам, а па тэлевізары казалі, што ўсіх лідараў трэба знішчаць, каб іншым не было панадна. Так, сябры да яго прыслухоўваліся, ён меў аўтарытэт, яго любілі. Забраць яго з трупярні было вельмі складана. Не давалі паглядзець. А як забраць, я ж не ведаю, што аддаюць. Але следчы дабіўся, каб бацьку паказалі цела. А што там паказаць, калі няма твару? Бацька пазнаў яго па татуіроўках, яны ж не знікаюць. Была татуіроўка з матрошкай з надпісам «Варвара», у гонар дачкі. Нам сказалі, што гэта быў суіцыд. Ён бы нікога не забіў, у гэтым дачыненні ён слабы. Да таго ж, як можа чалавек правісець у сквярыку ў такую спёку, ды каб ніхто не бачыў? Бацьку паказалі фотаздымкі з месца, дзе знайшлі. Тата не змог глядзець, таму што твару не было. Нам вельмі цяжка, мы ўсе на леках.

Вечарам 25 жніўня ля галоўнага ўвахода ў парк Перамогі маладзечанцы правялі акцыю ўшанавання Мікіты Крыўцова. Каля 50 чалавек выстраіліся ў ланцуг, трымалі кветкі і партрэт Мікіты. У хуткім часе да людзей падышлі супрацоўнікі міліцыі і заявілі, што мерапрыемства несанкцыяніраванае Маладзечанскім райвыканкамам, таму яны павінны разысціся.

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Опель-Астра H, 2006 г.в., універсал, сіні, у выдатным стане. Прабег 214 тыс. км. Т. (8-029) 9882697.
- ВАЗ-21 Ніва, аб'ём 1,7, 1996 г.в. Т. (8-029) 6809646.
- Сітраэн ZX, 1993 г.в., бензін 1,4. Т. А1 (8-044) 4522441.*
- Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-044) 4886067.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 1236722, (8-033) 3265724, (8-033) 3631161.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*
- Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Еўрарамонт. Цана дамоўная. Т. (8025) 5296374.*
- 3-пакаёвая кватэра з мэбляй і тэхнікай у Маладзечне, 77/45,3/9,5 кв.м, прасторная, светлая, свежы рамонт. Т. (8-029) 5531397.*
- Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *
- Дом у в. Маркуны, 28, Астравецкі раён. 10000 руб., торг. Т. (8029) 3681210.*
- Дом у вёсцы Селівонаўка. Тэрмінова. Альбо памяняю на 1-пакаёвую кватэру. Т. (8-033) 6629014.
- Зруб. Т. (8-044) 4781306.*
- Участак 0,25 га са старым домам у в. Маліноўшчына Маладзечанскага раёна, вул. Лясная, 22. Т. (8-044) 4861632.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

- Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*
- Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*
- «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*
- Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. Кансультацыя бясплатная. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ДЭМАНТАЖ**. ІП Буслаўскі А.І. УНП 691292601 Т. (8-029) 5417847, (8-029) 3057579.*
- Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*
- Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*
- Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*
- Работа са шклом (стекольные работы). Дастаўка, нарэзка, устаноўка шкла і люстэрак. ІП Ціхановіч П.П. УНП 691506875 Т.(8-029) 9512185, (8-033) 3293993.*
- **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*
- **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*
- **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*
- Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

- Піяніна, а/г Шылавічы. Т. (8-029) 2729557.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Казлы, дойная каза. Т. (8-029) 3597375.*
- Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*
- Парасяты кармалаў, аўтамабіль Таёта, 1984 г.в. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.
- Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

- Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*
- Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*
- Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*
- Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ІНШАЕ

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Аддам шчанятак у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

- Арганізацыі на пастаянную работу патрабуюцца швачкі (брыгада). ТАА «МісСью» УНП 691888958 Т. (8-029) 3482283.*
- Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ ПРАЦУ

- Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў (замена старых бярвенняў), рамонт падмуркаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*



Той самы сцяг.

# Маладзечанкі пашылі бел-чырвона-белы сцяг даўжынёй у 20 метраў

МАЛАДЗЕЧНА

**На мірных акцыях у Маладзечне з'явіўся вялікі бел-чырвона-белы сцяг. Як нам стала вядома, яго пашылі дзве маладзечанкі. З адной з іх, Таццянай Завацкай, мы пагутарылі.**

– Сцяг даўжынёй 20 метраў мы пашылі з маёй знаёмай **Ганнай Яршэвіч** за дзве гадзіны. Шылі на швейнай машынцы з двух канцоў. Мы не прафесійныя швачкі. Яна – мастачка, я – дальнабойшчыца. А пачалося ўсё так: я прыйшла ў краму набыць тканіну, каб пашыць невялікія бел-чырвона-белыя сцяжкі. Там сустрэла маладзечанку **Алесю**. Яна хацела набыць тканіну для вялікага сцяга, пыталася, ці змогуць у краме пашыць такі. Адказалі, што не змогуць. Алеся засумавала. Тады я сказала, што я магу: хоць не прафесійная швачка, але больш-менш роўны радок на машынцы зраблю, – расказвае Таццяна.

Маладзечанкі хутка дамовіліся. Алеся набыла белую і чырвоную тканіну і прывезла яе Таццяне. Па дарозе захапіла Ганну Яршэвіч са швейнай машынкай. Сцяг шылі з двух канцоў.

– Наш сцяг мы вырашылі не скручваць. Ад дома з вуліцы Тамары Дудко яго неслі тры чалавекі. Па дарозе далучылася больш народу. Было вельмі кранальна тое, як сцяг сустрэлі ля Лядовага палаца. Гэта была нават не радасць, а больш чым радасць.

Тэкст і фота – Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Слухалі «Перамен», «Стены рухнут» і Кадышаву

## 9 жніўня затрымалі вілейчукоў у прыватным двары на Вадап'янава

ВІЛЕЙКА

**Пра затрыманне ўвечары 9 жніўня на прыватным падворку ў Вілейцы нам расказаў віляйчук, адзін з затрыманых, Пётр Мамай, якога ў Вілейцы ведаюць як Кузьму Сіноптыка.**

### З магнітафона – «Перамен», на машыне – б-ч-б сцяг

– 9 жніўня мы з сябрамі адпачывалі на прыватным двары на вуліцы Вадап'янава, недалёка ад цэнтральнай плошчы. Уключалі на музычным цэнтры розныя песні. Былі і «Перамен», і «Стены рухнут», і Кадышава. Потым я прынёс гітару, сябры ўзялі іншыя музычныя інструменты. Выключылі магнітафон, пачалі спяваць свае песні. Крыху піва папілі. Калі скончылі іграць на гітары, зноў уключылі музыку. Можа, крыху гучней, чым трэба. А яшчэ ў двары стаяла машына, на антэне якой быў бел-чырвона-белы сцяг. Усё адбывалася каля 19:30.

Па словах вілейчука, да двара пад'ехалі міліцыянеры, сказалі выключыць музыку. Гаспадар дома выключаць адмовіўся. Прапанавалі зрабіць цішэй. Цішэй да той пары, пакуль міліцыянеры не пагадзіліся.

– Музыка гучала, спампаваная з інтэрнэта. Таму адна песня – цішэй, другая – гучней. Да таго ж музычны цэнтр стаяў не побач з намі. Нязручна было штораз бегаць і рабіць гук цішэйшым. Міліцыянеры прыехалі другі раз. Зноў сказалі пацішыць музыку. Што мы і зрабілі, – прыгадвае мужчына падзеі вечара 9 жніўня.

### Затрымлівалі без пабояў і лаянкі

Сябры далей працягнулі слухаць музыку і размаўляць. І тут – у 21:25 зноў пад'ехала міліцыя на бусе. Як распавядае суразмоўца, міліцыянеры, апранутыя ў каскі, пачалі адчыняць брамку. Гаспадар дома падышоў да брамкі. А міліцыянер асцярожна адной рукой узяў яго за шыю, другой – пад жывот і павёў у бус.

– Ніякіх пагроз, пабояў і лаянкі. Проста нахілілі – і ў машыну. І так усіх. Нас рассадзілі ў машыне і павезлі ў РАУС. Калі прывезлі, папрасілі выйсці і павялі ў актавую залу, – працягвае Кузьма.

У зале сядзелі некалькі гадзін, глядзелі тэлевізар. Патэлефанаваць і пакурыць затрыманым не дазволілі. У прыбіральню звадзілі па аднаму. Зрабілі медыцынскую экспертызу на алкаголь. Ва ўсіх быў станоўчы вынік. Але ж затрыманыя і не адмаўлялі таго, што ўжывалі піва.

– У актавай зале супрацоўнікі да нас ставіліся добра. Дзяўчаты ў форме, якія запісвалі нашы дадзеныя, далі папіць вады, прынеслі крэсла, якога не хапала. Я сказаў, што ў мяне дома застаўся адзін непаўнагадовы сын, бо жонка працуе ў начную змену ў Маладзечне.



На плошчы 9 жніўня затрыманыя вілейчукі не былі.

Спыталі, колькі год. Пачуўшы, што хлопцу 17, сказалі паначуе адзін, – распавядае суразмоўца.

Па яго словах, пратакол пісалі доўга. Першы дакумент, дзе мужчын абвінавачвалі ва ўдзеле ў мітынгу, затрыманыя не падпісалі. Так, яны былі не далёка ад плошчы, дзе ў гэты час ладзілася акцыя. Але ж у самім мерапрыемстве не ўдзельнічалі, былі на прыватным падворку. Падпісалі пратакол па артыкуле «Дробнае хуліганства».

### Затрыманыя з Маладзечна радаваліся, што трапілі ў Вілейку

Ноччу затрыманых адвялі ў ізалятар. Далі матрацы, падушкі, коўдры. Спачатку яны былі ўчацвярых. Потым падсадзілі двух затрыманых, якіх прывезлі з Маладзечна:

– Адзін, 20 гадовы хлопец, быў вельмі збіты. Яго затрымалі ў парку. Другі – мужчына за 40. Ён вечарам збіраўся дамоў, у Чысць. Ішоў на Цэнтральную плошчу, каб узяць таксі. Затрымалі разам з жонкай. Яго павезлі ў Вілейку. А жонка засталася сядзець у Маладзечне. У Вілейцы да ўсіх ставіліся па-чалавечы, ветліва. А ў Маладзечне ўжо пры затрыманні збівалі жорстка. Таму затрыманыя нават радаваліся, што трапілі ў Вілейскі, а не ў Маладзечанскі РАУС.

### Праз тыдзень далі флікеры і адправілі дадому

На наступны дзень пасля затрымання быў суд. Гаспадару дома прысудзілі 12 сутак, кожнаму з гасцей – па дзесяць. Але тэрміны цалкам затрыманыя не адседзелі:

– Адпусцілі праз тыдзень пасля затрымання. Было ўжо вельмі позна, таму мы папрасілі ў міліцыянераў флікеры.

Суразмоўца адзначае чалавечыя адносіны работнікаў міліцыі да затрыманых:

– Разумееце, можа, сын некага з міліцыянераў сядзіць за адной партай з маім сынам. Можа, нехта жыве са мной на адной вуліцы. Таму і мы паводзілі сябе нармальна, гэтаксама і да нас ставіліся. Не затрымаць нас не маглі. Але разумелі, што ўсім нам яшчэ жыць разам у адным горадзе, – падсумаваў мужчына.

У Вілейскім РАУС затрыманне пракаментавалі наступным чынам: мужчын затрымалі 9 жніўня за парушэнне грамадскага парадку пасля некалькіх папярэджанняў. Яны былі ў стане алкагольнага ап'янення, адзін – у стане наркатычнага. Праз пару гадзін пасля затрымання мужчыны ўжо і самі былі не рады, што так атрымалася.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# Якія словы настаўнік скажа вучням першага верасня

## Педагогі зноў выйшлі на акцыю

МАЛАДЗЕЧНА

**21 жніўня ўвечары некаторыя настаўнікі маладзечанскіх школ зноў сабраліся на акцыю.**

Сустрэліся каля Лядовага палаца і рушылі на Цэнтральную плошчу. У большасці на руках былі блакітныя стужкі, а ў руках – шары такога ж колеру.

– Менавіта гэтыя атрыбуты выкарыстоўваюць нашы мінскія калегі, якія раней пачалі выходзіць на акцыі, – растлумачылі карэспандэнту ўдзельнікі.

– Я тут, каб выказаць сваю пазіцыю, – кажа **Вольга**, што працавала настаўніцай пачатковых класаў у СШ №8. Яна перакананая: былых настаўнікаў не бывае.

– Кожнае першае верасня я думаю пра тое, як настаўнік зойдзе ў клас і якія першыя словы ён скажа вучням, каб пачаць новы навучальны год. Што сёлета зможа сказаць педагог, калі ён стане ля дошкі? Як ён пачне першы ўрок у гэтым навучальным годзе?

На плошчы ўжо збіраліся людзі. За настаўніцкай калонай неслі 20-метровы сцяг.

**Алена Сербіна** працуе ў гімназіі №10. На акцыю яна прыйшла не адна. Побач – калегі з гімназіі. На пытанне, навошта настаўнікі прыйшлі на акцыю, адказвае коратка: «Абараніць гонар мундзіра!»

– Я таксама народ. І я не згодны з тым, што сёння адбываецца. Я супраць фальсіфікацый выбараў і збіцця, я – за новыя выбары. Настаўнік, як і доктар, – стваральная прафесія. Доктар лечыць, мы выхоўваем. Таму педагогам важна сёння быць тут, – кажа настаўнік СШ №8 **Ігар Данкевіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




Настаўнікі падчас акцыі.

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# Пяцёрка моцных псіхалагічных фільмаў, пра якія мала хто ведае



Фота pinterest.com.

Кадр з фільма «Нешта не так з Кевінам».

**Ёсць фільмы, якія не збіраюць поўныя залы і ляжаць далёка не ў кожнай дамашняй калекцыі, але тым не менш заслугоўваюць асаблівай увагі. Мы падрыхтавалі для вас расповед некалькі такіх стужак.**

### «Нешта не так з Кевінам»

Змрочная, але прыгожая псіхалагічная гісторыя пра ўзаемаадносіны мамы і сына. Адклаўшы ўбок усе асабістыя і прафесійныя амбіцыі, Ева прысвячае жыццё нараджэнню і выхаванню сына. Аднак іх адносіны з самага пачатку аказваюцца вельмі складанымі. У 15 гадоў Кевін здзяйсняе непапраўнае, і Ева мучыцца пытаннем: ці яе гэта віна?

### «Пабочны эфект»

Калі яе мужа пасадзілі ў турму, у Эмілі пачаліся псіхалагічныя праблемы. Праз чатыры гады ён выходзіць, а Эмілі ўпадае ў дэпрэсію і быццам бы нават спрабуе пакончыць з сабой. Псіхатэрапеўт прызначае ёй лекі, але сама Эмілі хоча прымаць новы прэпарат, які ёй раіць калега. Поўная загадак і дзівосаў гісторыя, як антыдэпрэсанты акрамя радасці прыносяць гора, бо ўмяшанне ў працу мозга не застаецца без наступстваў.

### «Марта, Мэйсі Мэй, Марлен»

Марта спрабуе аднавіцца і вярнуцца да нармальнага жыцця пасля таго, як збегла з секты і ад яе лідара. Яна шукае падтрымкі ў сваёй старэйшай сястры Люсі і яе мужа, з якімі даўно не мела зносіны, але не знаходзіць у сабе сіл прызнацца ім у сапраўднай прычыне сваёй доўгай адсутнасці. Яна перакананая, што члены секты яе праследуюць. Пакутлівыя ўспаміны, якія не даюць дзяўчыне спакою, перарастаюць у параною, і мяжа паміж рэальнасцю і ілюзіяй паступова размываецца.

### «Яна»

Тэадор – самотны пісьменнік, купляе новую тэхнічную распрацоўку – аперацыйную сістэму, заклікануго выконваць любое жаданне карыстальніка. Да здзіўлення Тэадора, неўзабаве паміж ім і аперацыйнай сістэмай узнікае раман.

### «Клык»

У доме на ўскраіне горада жывуць маці, бацька і трое дзяцей. Дом акружаны высокім плотам, за які дзеці ніколі не выходзілі. Яны растуць, забаўляюцца, вучацца і гуляюць так, як лічаць патрэбным іх бацькі. Яны вераць, што самалёты, якія пралятаюць над імі, цацачныя, а «зомбі» – гэта назва жоўтай кветкі.

Увайсці ў дом з навакольнага свету можа толькі Крысціна. У кампаніі галавы сямейства яна працуе ахоўнікам. Яе запрашаюць для таго, каб сын з яе дапамогай задавальняў свае сэксуальныя патрэбы. Дарослыя дзеці ведаюць галоўны закон сям'і: «нельга пакінуць дом да таго часу, пакуль у цябе не выпадзе правы клык».

Фільмы даступныя ў анлайн-кінатэатрах у інтэрнэце.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 31 АВГУСТА**

**7.00, 15.40, 17.55, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.45, 17.50, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35, 14.45** Т/с **«ТЕМНЫЙ КРИСТАЛЛ».**
**8.25, 19.50** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.00** Д/ф.
**10.30** Смотрим всей семьей «Гарри Поттер и узник Узкабана».
**12.40, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.50** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**15.50** «Мульт-парад».
**16.30** Х/ф **«НЕ БОЛИТ ГОЛОВА У ДЯТЛА».**
**19.15** «Суперлото».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КОНСТАНТИН. ПОВЕЛИТЕЛЬ ТЬМЫ».**
**23.10** Х/ф **«СКОРОСТЬ».**

**ВТОРНИК, 1 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.25, 21.10, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 16.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**9.00, 19.15** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**9.45** Программа программы СБ.
**10.30** Х/ф **«КОНСТАНТИН. ПОВЕЛИТЕЛЬ ТЬМЫ».**
**12.30, 17.50** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**13.40** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**15.30** «Мульт-парад».
**15.50** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.15** Х/ф **«РОЗЫГРЫШ».**
**17.45** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«МЕМУАРЫ ГЕЙШИ».**
**23.40** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**СРЕДА, 2 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.25, 19.15** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.20** Х/ф **«МЕМУАРЫ ГЕЙШИ».**
**12.45, 18.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.05** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**16.00** «Мульт-парад».
**16.20** Х/ф **«АРАХИСОВЫЙ СОКОЛ».**
**17.55** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ГЕМИНИ».**
**23.00** Х/ф **«Я ЛЕГЕНДА».**
**0.40** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**ЧЕТВЕРГ, 3 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 21.10, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Далматинец».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.00** Д/ф.
**10.30** Х/ф.
**12.50, 17.55** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.10** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.20** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ МЕДВЕЖОНКА».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КУКЛОВОДЫ».**
**0.15** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**ПЯТНИЦА, 4 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.45, 21.10, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Далматинец».
**7.30, 15.50, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«БУМАЖНЫЙ ДОМ».**
**10.00** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.20** Х/ф **«ПРАВДИВАЯ ЛОЖЬ».**
**12.40** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**
**14.00** Т/с **«ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**15.55** «Мульт-парад».
**16.10** Х/ф **«ЭКСТРАСЕНСЫ».**
**17.55** Т/с **«ДОЧЬ ПОСЛА».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНОЕ НЕБО».**
**22.50** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНОЕ НЕБО-2».**
**0.20** Т/с **«БАНДЫ ЛОНДОНА».**

**СУББОТА, 5 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.05, 21.15, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.45** «Приколы 13-й школы».
**7.50** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**10.05** Х/ф **«А У НАС ВО ДВОРЕ».**
**15.10** Смотрим всей семьей «Гарри Поттер и Кубок огня».
**17.30** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ МЕДВЕЖОНКА».**
**19.00** «Погода».
**19.05** Х/ф **«ПРИНЦ ПЕРСИИ. ПЕСКИ ВРЕМЕНИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«ТРОЙНАЯ ГРАНИЦА».**
**23.30** Х/ф **«ШАЗАМ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 6 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.40, 17.10, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Бэтмен».
**8.30, 17.05** «Приколы 13-й школы».
**8.35** «Готовь как шеф».
**9.00** Х/ф **«АВТОСТОПОМ ПО ГАЛАКТИКЕ».**
**10.40** Х/ф **«А У НАС ВО ДВОРЕ».**
**15.45** Мультфильмы «Смотрим всей семьей».
**17.15** «Детектив на экране».
**18.45** Т/с **«КАСЛ».**
**19.30, 1.10** «Погода».
**19.35** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ ПРОТИВ МУЖЧИН».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.20** Х/ф **«ЛАРГО ВИНЧ.НАЧАЛО».**
**23.10** Х/ф **«ЗАГОВОР В БИРМЕ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 31 АВГУСТА**

**6.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**8.40** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**9.50** Х/ф **«БЕЗУМНО ВЛЮБЛЕННЫЙ».**
**13.00** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**15.00** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**17.00** Х/ф **«БРАТЬЯ СИСТЕРС».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 1 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.25** Театральная гостиная.
**8.25** Х/ф **«ИЗ ЖИЗНИ ТАЙНЫХ АГЕНТОВ».**
**10.30** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**13.00** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС».**
**15.10** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**16.30** Х/ф **«РЭД».**
**19.20** Гость в студии.
**20.15** Х/ф **«СПРОСИТЕ СИНДИ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 2 СЕНТЯБРЯ**

**6.30, 7.35** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Гость в студии.
**9.40** Х/ф **«ИСПОВЕДЬ НЕВИДИМКИ».**
**11.40** Х/ф **«КАК Я СТАЛ РУССКИМ».**
**13.00** Х/ф **«МАМЫ».**
**14.50** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ».**
**16.55** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ».**
**19.15** Протокол.
**20.15** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 3 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.15, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мастерство и вдохновение.
**10.00** Х/ф **«ИСТОРИЯ О НАС».**
**13.00** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**14.50** Х/ф **«БЕЗ ИЗЪЯНА».**
**16.40** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО».**
**19.20** Протокол.
**20.20** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 4 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.20, 8.15, 18.50** Афиша.
**10.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**11.55** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**13.45** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**15.40** Х/ф **«РЭД 2».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** Волшебная книга МЧС.
**19.40** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«СВОДНЫЕ БРАТЬЯ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СУББОТА, 5 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.20** Афиша.
**8.20, 21.10** Волшебная книга МЧС.
**8.30** Х/ф **«РОБИН ГУД».**
**10.30** Х/ф **«ТАКСИ 2».**
**13.00** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ».**
**14.50** Х/ф **«НА МОРЕ!».**
**16.25** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС».**
**19.20** Мастерство и фантазия.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 6 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**8.30** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**10.00** Х/ф **«ШОПО-КОП».**
**12.20** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**13.50** Х/ф **«ХОЛОП».**
**15.40** Х/ф **«РЭД».**
**17.40** Х/ф **«РЭД 2».**
**19.40** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**21.20** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**

## Беларусь 1

**6.35, 16.40, 19.10** Х/ф **«ЗАВТРАК В ПОСТЕЛЬ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.50** Истории спасения.
**10.25** Зона Х. Итоги недели.
**11.05** Вокруг планеты.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** Х/ф **«ПРОСТИТЬ ЗА ВСЕ».**
**14.20** Маршрут построен.
**15.15** Поколение.by.
**15.30** Один день.
**16.05** Судьба гигантов.
**20.35** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.10** Х/ф **«ПРОЩЕ ПАРЕНОЙ РЕПЫ».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.30** Т/с **«СТИЧ!».**
**9.10, 19.45** Телебарометр.
**9.15** «Суперженa». Реалити-шоу.
**10.05** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.
**11.20** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.
**12.05** Х/ф **«СПАСТИ МИСТЕРА БЭНКСА».**
**14.10** «Когда мы дома». Скетчком.
**14.35** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.00** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**17.50** Х/ф **«ИГРА ПО ЧУЖИМ ПРАВИЛАМ».**
**20.15** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«ЖЕНЩИНА В ЧЕРНОМ «.**
**22.50** «Третий лишний». Реалити-шоу. [СТ].
**23.50** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».
**8.00, 13.10, 18.25** Навіны культуры.
**8.20, 13.30** «Культурны рэпартаж». Бялыніцкая фрэска XVIII стагоддзя «Узыходжанне на Галгофу».
**8.35** » Шчыра Ваш…» Мастацкі фільм.
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Бабка па-панску.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.45, 21.05** «Белыя росы». Мастацкі фільм [СТ].
**13.45** «Запіскі на палях». Кандрат Крапіва: чалавек, які смяяўся… [СТ].
**14.15 Т/ф «ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ».**
**16.50** «Анастасія Слуцкая». Мастацкі фільм [СТ].
**18.45** Урачыстае адкрыццё Дня беларускага пісьменства і цырымонія ўручэння Нацыянальнай літаратурнай прэміі. Святочны канцэрт «Беларускі тэкст».
**20.40** «Калыханка».
**22.30** Урачыстае закрыццё Дня беларускага пісьменства. Гала-канцэрт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** Х/ф **«РОЗА ПРОЩАЛЬНЫХ ВЕТРОВ».**
**11.00** «Видели видео?».
**13.00** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.
**14.05** Т/с **«ПО ТУ СТОРОНУ ВОЛКОВ».**
**16.20** Международный музыкальный фестиваль «Жара».
**18.15** Международный музыкальный фестиваль «Жара» Продолжение.
**18.30** «Три аккорда».
**20.00** «Контуры».
**21.20** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**23.40** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**0.00** Х/ф **«ВОДИТЕЛЬ ДЛЯ ВЕРЫ».**

## СТВ

**6.30, 0.05** «Пища богов».
**8.15** Документальный спецпроект.
**9.10** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.00** СТВ представляет: Фінал Рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка».
**12.30, 13.40, 16.40, 20.50** Т/с **«КАЧЕЛИ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.20** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.
**7.15** Х/ф **«ЗОЛУШКА».**
**8.50** «Наше кино. Неувядающие». Валентин Гафт.
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.10** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК С БУЛЬВАРА КАПУЦИНОВ».**
**12.10** Х/ф **«12 СТУЛЬЕВ».**
**15.30, 16.15** Х/ф **«ПО СЕМЕЙНЫМ ОБСТОЯТЕЛЬСТВАМ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».
**19.30, 1.00** Х/ф **«Д'АРТАНЬЯН И ТРИ МУШКЕТЕРА».**
**1.50** «Наше кино. История большой любви». Д'Артаньян и три мушкетера.
**2.15** Х/ф **«ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ ПЕТРА ВИНОГРАДОВА».**

## НТВ-Беларусь

**6.10** «Астропрогноз».
**6.15** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**6.50** «50 рецептов первого».
**7.20** «Кто в доме хозяин?».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.25** «24 вопроса».
**8.55** Беларусы.
**9.30** «Я хочу это увидеть!».
**10.20** «Первая передача».
**10.50** «Чудо техники».
**11.35** «Дачный ответ».
**12.25** «НашПотребНадзор».
**13.20** «Поедем, поедим!».
**14.05** Истории спасения.
**14.35** Т/с **«КАПКАН ДЛЯ ЗОЛУШКИ».**
**16.20** «ЧП. Расследование».
**16.45** «Следствие вели…».
**18.10** «Новые русские сенсации».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** «Звезды сошлись».
**21.20** Ты не поверишь!
**22.20** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЯРКИЕ КРАСКИ ОСЕНИ».**
**10.25** «Устами младенца».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.15** «Сто к одному».
**12.00** Х/ф **«КАРНАВАЛ».**
**14.50** Х/ф **«ОХОТА НА ВЕРНОГО».**
**16.40** Х/ф **«ДОРОГА ДОМОЙ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**21.25** Х/ф **«МАМА, Я ЖЕНЮСЬ».**
**23.00** «В людях».
**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**0.10** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000
**6.45** Тайное окно. **8.25** Солт. **10.10, 4.00** Дивергент. **12.35** Дивергент, глава 2: Инсургент. **14.35** Дивергент, глава 3: За стеной. **16.40** Парк Юрского периода. **19.00** Парк Юрского периода 2: Затерянный мир. **21.15** Парк Юрского периода 3. **22.55** После нашей эры. **0.30** Готика. **2.10** Человек-мотылёк.

### TV1000 ACTION
**7.15, 0.50** Последний охотник на ведьм. **9.10** Имитатор. **11.15** Интернэшнл. **13.15** Убийца 2. Против всех. **15.15** S.W.A.T.: Спецназ города ангелов. **17.20** Бандитки. **19.00** Быстрый и мёртвый. **20.55** Робин Гуд. **23.15** Затерянные во льдах. **2.35** Эквилибриум. **4.20** Противостояние.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО
**7.30** Любовь в большом городе 2. **9.20** Любовь в большом городе 3. **10.50** Танки. **12.25** Побег. **14.40** Селфи. **16.45** Географ глобус пропил. **19.00, 5.30** Время Первых. **21.30** Коллектор. **22.45** Непрощённый. **0.40** Кома. **2.30** Восьмёрка. **4.05** Счастья! Здоровья!

### ТВ3
**6.00** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день. 3 сезон». **9.15** «Погоня за вкусом». **10.15** Х/ф **«ЧЕЛЮСТИ 3». 12.15** Х/ф **«ОБЕТ МОЛЧАНИЯ». 14.00** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ». 16.30** Х/ф **«ДЖЕЙСОН БОРН». 19.00** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 21.15** Х/ф **«СТРАХОВЩИК». 23.30** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК НОЯБРЯ». 1.30** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНАЯ ГОНКА: ВНЕ АНАРХИИ». 3.15, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС
**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЖИЗНЬ, КОТОРОЙ НЕ БЫЛО». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«СТЕРВЫ ИЛИ СТРАННОСТИ ЛЮБВИ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ПОБЕДНЫЙ ВЕТЕР, ЯСНЫЙ ДЕНЬ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА». 3.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ТАНЦЫ НА УГЛЯХ».**

### КИНОКОМЕДИЯ
**0.00** Х/ф **«НЕСМОТРЯ НИ НА ЧТО». 2.40** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ 2». 4.55** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ ОТРЫВ». 6.30** Х/ф **«ГОРЬКО В МЕКСИКЕ». 8.10** Х/ф **«НИ МИНУТЫ ПОКОЯ». 9.45** Х/ф **«БЕЛОЕ ВИНО ИЗ БАББУДОЙУ». 11.40** Х/ф **«ПИПЕЦ». 13.50** Х/ф **«РОБИН ГУД: НАЧАЛО». 16.00** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 17.45** Х/ф **«СУПЕРСТАР». 19.30** Х/ф **«ЭТО ВСЕ ОНА». 21.20** Х/ф **«ТУРЕЦКИЙ ДЛЯ НАЧИНАЮЩИХ». 23.20** Х/ф **«ОФИСНЫЙ БЕСПРЕДЕЛ».**

### КИНОСЕРИЯ
**0.25, 1.30, 2.30, 3.35, 4.35, 5.40, 6.40, 7.45, 8.45, 9.45** Т/с **«ВИРТУОЗЫ». 10.45, 11.45, 12.50, 13.45** Т/с **«ШАКАЛ». 14.50** Т/с **«ШЕРЛОК: ЕГО ПОСЛЕДНИЙ ОБЕТ». 16.40** Т/с **«ШЕРЛОК: ШЕСТЬ ТЭТЧЕР». 18.30** Т/с **«ШЕРЛОК: ЛОЖНЫЙ ДЕТЕКТИВ». 20.25** Т/с **«ШЕРЛОК: ПОСЛЕДНЕЕ ДЕЛО». 22.15** Т/с **«ШЕРЛОК: БЕЗОБРАЗНАЯ НЕВЕСТА».**

### ВТВ
**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«СМЫВАЙСЯ». 14.15, 21.00, 23.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **14.40** Фэнтези «БОГИ ЕГИПТА». **16.55** Х/ф **«АСТЕРИКС НА ОЛИМПИЙСКИХ ИГРАХ». 19.00** Х/ф **«АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС В БРИТАНИИ». 22.25** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.20** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **1.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **1.35** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5
**6.55** Азбука спорта. **7.10** Баскетбол 3х3. Национальная лига. Финальный этап. Палова-арена. **10.15** Тренировочный день. **10.45** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск – Барыс. **12.50** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Столица (Минск) – Дорожник (Минск). **14.40** Футбол. Лига Наций. Португалия – Хорватия. **16.20** Спорт-центр. **18.50** Гандбол. СЕХА-Газпром Лига. Финал 4-х. Матч за 3-е место. В перерыве Спорт-центр. **20.35** Игры «на вырост». **21.05** Пит-стоп. **21.35** Футбол. Лига Наций. Испания – Украина. В перерыве Спорт-центр. **23.40** Гандбол. СЕХА-Газпром Лига. Финал 4-х. Финал.

### EUROSPORT
**0.00, 2.00, 4.00, 6.00, 7.00** Теннис. US Open. Третий круг. **8.30** Велоспорт. «Тур де Франс». 7-й этап. **9.30** Велоспорт. «Тур де Франс». 8-й этап. **10.30** Теннис. US Open. Матч дня. **11.30, 12.00** Супербайк. Этап чемпионата мира. Теруэл. Суперпоул. **12.30** Автогонки. Суперкубок Porsche. Спа-Франкоршам. **13.00** Автогонки. Суперкубок Porsche. Монца. **14.00** Велоспорт. «Тур де Франс». 9-й этап. **17.50, 19.00, 21.00, 23.00** Теннис. US Open. Четвёртый круг.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ
**6.00** Сравнительный тест. **6.30, 18.05** Испытание на прочность. Эксклюзив. **7.00, 18.35** За рулем каждый день. **7.25** Электродрайв. **7.40, 8.30, 14.55, 2.15** Тест на «Драйве». **8.10, 10.25, 13.30, 16.30, 19.05, 23.45, 1.45, 3.50** Итоговые новости. **9.05** Советы юриста. **9.50** Резьба по стали. **10.40** Тест с дядей Ваней. **11.00, 3.10** Мотогараж. **11.30** Мото тест-драйв. **11.50, 19.25, 22.55** Кругосветка по бездорожью. **12.20, 19.55, 23.30, 3.40** Авто: вторые руки. **12.40, 20.10, 0.05, 4.05** Трасса А2. **13.50, 0.55** Проверка на дороге. **14.05, 1.10** Испытание на прочность. **14.40, 2.00** Вторичка. **15.25, 2.40** Сити-тестер. **16.00, 21.00, 4.50** 9 злобных водителей. **16.50** Байки про байки. **17.30** Эконом-тест. **17.50, 21.35** Обновление. **21.55, 5.20** Вечер с Пикуленко. **22.35** Хорошо забытое.

### EXPLORE
**6.00, 6.50, 7.45, 8.35** Речные чудовища. **9.25** Могучие реки. **10.20, 10.45, 13.30, 13.55, 14.20, 14.45, 15.05, 15.30, 15.55, 16.20, 16.45, 17.10, 17.35, 18.00, 18.25, 18.50, 19.15, 19.40, 20.05** Нефритовая лихорадка. **11.10** Строительство гигантов. **11.55, 21.15** Поисковая команда в Австралии. **12.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.00, 22.50, 23.35, 0.25** Австралийские охотники на лобстеров. **1.10, 1.55, 2.40, 3.25, 4.10** Деревенский дом. **4.55** Выживание в лесу.

### HISTORY
**6.05** Тайны музеев. **6.50** Расшифрованные сокровища. **7.40, 8.30, 9.15, 10.00, 12.25, 13.15, 1.05, 2.55, 3.40, 4.25** Музейные тайны. **10.45, 11.35** Мифические существа. **14.00, 14.50, 15.40** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **16.30** Последние часы Помпеев: новые загадки. **17.25** Загадка исчезновения неандертальцев. **18.20** Смертоносный интеллект. **19.10** Боевые корабли. **20.00, 20.50** Монархи: забытые письма. **21.45** Хит-парад военной техники. **22.35** Оружейники: искусство войны. **23.25, 0.15** Запретная история. **1.50** История христианства. **5.10** Невероятные изобретения.

### NATURE
**6.05** Природа в кадре. **6.30, 7.25, 8.15, 21.35, 22.25, 23.15** Выживание в дикой природе. **9.05, 10.00, 10.50** Огромные звери: последние из великанов. **11.40, 12.30** Уэльс: дикая земля. **13.25, 14.10** Великая миграция. **15.00, 18.45** Дикая Канада II. **16.05, 19.45, 20.40** Эпический Йеллоустоун. **16.55** В поисках русского тигра. **17.50** Природа Америки: времена года. **0.05** Невероятные встречи с животными. **0.55** Хищные питомцы. **1.45, 5.00** Мутации погоды. **2.30** Ветеринар из Йоркшира. **3.20, 3.45, 4.10, 4.35** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC
**6.00** Научные глупости. **6.50, 5.35** Игры разума. **7.15, 2.00, 2.40, 4.55** Авто-SOS. **8.05** Настоящий суперкар. **9.00, 9.50** Экстремальный экспресс. **10.40** Древний Китай с высоты птичьего полета. **11.30, 12.20** Затерянные города с Альбертом Лином. **13.15, 14.05, 15.00** Международный аэропорт Дубай. **15.50, 16.15, 16.40, 17.10, 3.25, 3.45, 4.10, 4.35** Сделать за один день. **17.35, 18.25** Расследование авиакатастроф. **19.15, 20.05, 22.45, 23.35** Инстинкт выживания. **21.00, 21.50, 0.20, 1.05** Путешествия с Гордоном Рамзи.

### ОХОТА И РЫБАЛКА
**6.00, 9.55, 13.55, 17.55, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.20, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 21.35, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.25, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 15.55** Рыболовная Россия. **8.25, 12.25, 16.25, 0.30, 4.40** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **8.55, 12.55, 16.55, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.20, 17.25, 1.30, 5.30** Донка против фидера. **10.50, 14.50** Рыболовы. **11.25, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **18.55** Рыбалка в России. **20.00** Рыбалка 360. **20.30** Егерский кордон. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.00, 4.10** Андрей Старков и его команда. **2.55** Дед Мазай и зайцы.

### УСАДЬБА
**6.00, 10.05, 14.05, 18.00, 21.55, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.40, 14.35, 18.30, 22.25, 2.35** Деревянная Россия. **7.00, 15.05, 19.00, 22.55, 3.05** Старые дачи. **7.30, 11.40, 23.30** Как поживаете? **8.00, 12.10, 16.05, 20.05, 0.00, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 16.20, 20.20, 0.20, 4.35** Забытые ремесла. **8.35, 12.45, 16.40, 20.35, 0.35, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.00, 0.50** У мангала. **9.20, 3.35** Травовед. **9.40, 13.30, 17.30, 21.25, 1.20, 5.35** ТОП-10. **11.10** Дачные радости с Мариной Рыкалиной. **15.35, 19.30, 3.50** Милости просим. **16.55, 20.50, 5.05** Семейный обед. **1.50** Готовим на природе.



Ёсць варыяцыя бел-чырвона-белага сцяга, на якім размешчаны герб Пагоня.

# Адкуль з'явіўся бел-чырвона-белы сцяг

**Бел-чырвона-белы сцяг быў першым сцягам незалежнай Беларусі. Пад ім прымаў абавязкі прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка, а цяпер яго шырока выкарыстоўваюць у мірных пратэстах. «РГ» распавядае гісторыю сцяга і як ён з'явіўся.**

### Колеры сцяга звязаныя з гербам Пагоня

Акалічнасці з'яўлення бел-чырвона-белага сцяга невядомыя. У 1990-я гады распаўсюдзілася гісторыя пра бітву (меркавана, Грунвальдскую), у якой паранены князь падняў над галавой скрываўленую стужку як сцяг, пасля чаго павёў войскі ў бой.

Навуковая версія пра бел-чырвона-белы сцяг грунтуецца на геральдыцы і вексілалогіі. Паводле гэтых дысцыплін, сцяг дзяржавы ўтвараецца з колераў герба.

Гербам ВКЛ доўгі час з'яўляўся герб Пагоня, колеры якога былі белы і чырвоны. Пагоня – гэта выява вершніка з паднятым мячом на белым кані на чырвонай тарчы. Вершнік трымае ў паднятай правай руцэ меч, у левай – белую, чырвоную альбо сінюю тарчу з залатым шасціканцовым крыжам.

Першы пісьмовы ўспамін пра Пагоню датуецца 1278 годам у беларуска-літоўскіх летапісах. Пагоня атаясамліваецца з усімі вялікімі князямі літоўскімі, пачынаючы з **Віценя**, які княжыў з канца 13 стагоддзя.

14 мая 2007 года ўрад Беларусі надаў гербу «Пагоня» статус нематэрыяльнай гістарычна-культурнай каштоўнасці.

### Белы і чырвоны як спрадвечныя колеры беларусаў

Белы і чырвоны колеры – уласцівыя колеры для беларускай культуры. Чырвоныя элементы на белай аснове лічацца найбольш пашыраным спалучэннем колераў у беларускім арнаменце. А адметнасцю беларускага гатычнага дойлідства з'яўляецца спалучэнне чырвонай цаглянай муроўкі з белымі атынкаванымі нішамі.

З эпохі Сярэднявечча вядомыя спалучэнні белага і чырвонага колераў на вексілалагічных матэрыялах (штандарах, сцягах і гэтак далей). Сцягам ВКЛ было чырвонае палотнішча з сярэбраным вершнікам. Адзін з самых старэйшых малюнкаў сцяга датуецца 1443 годам.

У хрысціянскай традыцыі чырвоны колер на белым фоне – знак Хрыстовай пакуты, пралітай крыві за чалавецтва.

### З'яўленне сцяга ў гісторыі Беларусі

Першыя дакументальныя звесткі пра бел-чырвона-белы сцяг адносяцца да позняга Сярэднявечча.

> **Першым дакументальным сведчаннем лічыцца карціна 16 стагоддзя, прысвечаная бітве пад Оршай.**

Вялікалітоўская кавалерыя карысталася сцягам Святога Юрыя – чырвоны крыж на белым палотнішчы. На карціне «Бітва пад Оршай» аўтарства **Ганса Крэля** прысутнічае сем бел-чырвона-белых сцягоў.

Пасля аб'яднання Польскага каралеўства і ВКЛ у федэратыўную дзяржаву былі спробы ствараць і аб'яднаны сцяг. у 1605 годзе вялікі князь літоўскі і кароль польскі **Жыгімонт Ваза** пачаў ужываць трохпалосны чырвона-бела-чырвоны сцяг, а крыху пазней з'явіўся бела-чырвона-бела-чырвоны сцяг. Аднак такі сімвал не прыжыўся.

Падчас нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863-1864 гадоў **Кастусь Каліноўскі** вярнуўся да гербу Пагоні.

Бел-чырвона-белая сімволіка актыўна выкарыстоўвалася беларускім нацыянальным рухам канца 19 – пачатку 20 стагоддзя. У Лютаўскую рэвалюцыю 1917 года бел-чырвона-белым сцягам пачалі карыстацца як сцягам беларусаў. Яго распрацаваў архітэктар **Клаўдзій Душ-Душэўскі**. 7 снежня 1917 года ў Мінску пачаў працу Першы Усебеларускі з'езд пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Бел-чырвона-белы сцяг стаў нацыянальным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі. Такім жа сцягам карысталіся падчас Слуцкага паўстання ў 1920 годзе. У міжваенны перыяд бел-чырвона-белым сцягам карысталіся шматлікія арганізацыі ў Заходняй Беларусі.

У Другую сусветную вайну бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваў калабарацыйны беларускі ўрад. Адзначым, што гэты быў распаўсюджаны досвед сярод нацысцкай палітыкі на захопленых тэрыторыях. Напрыклад, пад расійскім трыкалорам ваявала на баку немцаў так званая Руская вызваленчая армія пад камандаваннем **Андрэя Уласава**. Нацысцкае кіраўніцтва такім чынам выкарыстоўвала нацыянальныя сімвалы, каб даць народу ілюзорную надзею на незалежнасць. А таксама каб людзі пад нацыянальнымі сімваламі ваявалі не супраць немцаў (яны, маўляў, з'яўляюцца вызваліцелямі), а супраць савецкай дзяржавы, якая была захопнікам.

У сярэдзіне 1990-х пачалася дыскрэдытацыя бел-чырвона-белага сцяга і герба Пагоні, як сімвалаў, якія выкарыстоўвалі падчас акупацыйнага рэжыму ў Другую сусветную вайну. Трэба адзначыць, што бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня з'явіліся ў беларускай гісторыі значна раней, чым у часы нацысцкай акупацыі беларускіх тэрыторый.

Афіцыйнае прызнанне бел-чырвона-белага сцяга адбылося пасля прыняцця Дэкларацыі аб Незалежнасці ў 1990 годзе. Першы прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прысягаў пад бел-чырвона-белым сцягам. У 1995 годзе Лукашэнка ініцыяваў рэферэндум, на якім змянілі бел-чырвона-белы сцяг на зменены сцяг БССР і герб Пагоню на зменены герб БССР.


Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● КАЛЯНДАР

**28 ЖНІЎНЯ**

**1915.** Нарадзіўся **Часлаў Найдзюк**, беларускі грамадскі дзеяч. У час Другой сусветнай вайны быў старшынёй акругования міравога суда ў Вілейцы.

**1919.** У Вільні адкрыты ўніверсітэт Стэфана Баторыя.



**29 ЖНІЎНЯ**

**1974.** Авіякатастрофа ля Ружанаў Пружанскага раёна. У выніку сутыкнення двух верталётаў МІ загінулі шэсць чалавек.

**30 ЖНІЎНЯ**

**1954.** Нарадзіўся **Аляксандр Лукашэнка**, першы прэзідэнт Беларусі.

**31 ЖНІЎНЯ**

**1432.** Ноччу на 1 верасня князі **Жыгімонт Кейстутавіч** і **Сямён Гальшанскі** здзейснілі дзяржаўны пераварот. Замах на вялікага князя Свідрыгайлу. Пачатак грамадзянскай вайны ў ВКЛ.

**1980.** У Польшчы створаны прафсаюз «Салідарнасць».

**1 ВЕРАСНЯ**

**1827.** У Расійскай імперыі забаронена прымаць сялян у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы.

**1939.** Напад нацысцкай Германіі на Польшчу. Пачатак Другой сусветнай вайны.

**2 ВЕРАСНЯ**

**1939.** Вольны горад Данцыг (Гданьск) захоплены нацысцкай Германіяй.

**3 ВЕРАСНЯ**

**1927.** Нарадзіўся **Алесь Адамовіч**, беларускі пісьменнік (пам. 1994).



**1953.** Увайшла ў дзеянне Еўрапейская канвенцыя правоў чалавека.

**1967.** Швецыя перайшла на правабаковы аўтамабільны рух.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**

# «Пацярпелым варта тэрмінова

## Расказваем пра валанцёра Канстанціна Чыкалава, які арганізаваў у Маладзечне




Валанцёр і актывіст з Маладзечна Канстанцін Чыкалаў.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

**У першыя дні пасля выбараў менавіта Канстанцін стаяў каля Маладзечанскага райаддзела міліцыі і збіраў інфармацыю пра тых, каго затрымлівалі па палітычных прычынах. Ён арганізаваў ініцыятыву by_help Molo, якая дапамагае пацярпелым псіхалагічна, юрыдычна і матэрыяльна.**

Мы папрасілі Канстанціна расказаць пра тое, як адбылося стварэнне ініцыятывы, якой аказалася гэта праца і што прывяло яго да такой ідэі.

### Выбары сталі выклікам для ўсіх

– Я сам быў затрыманы ў 2006-м, адбыў 10 сутак на Акрэсціна.

> **Тады нікога так не збівалі, як сёлета. І калі былі затрыманні іншых, мы з сябрамі стараліся дапамагаць.**

Ініцыятыву па Маладзечне стварыў 10 жніўня, калі заўважыў, што пасля 9 адбыліся жорсткія затрыманні. Стварыў суполку ў тэлеграме. У першыя дні пад РАУС я дзяжурыў адзін, каб сустрэцца з роднымі затрыманых. Каб паспець паразмаўляць з тымі, каго выпускалі, прапанаваць дапамогу. Ведаю людзей, якія гатовыя дапамагаць, і сам меў досвед працы валанцёрам. Так што запусціць ініцыятыву не было складана.

> **Пасля далучыліся і іншыя валанцёры – людзі, якія працавалі бясплатна. Тады ўжо складалі графік дзяжурства.**

Мне вельмі падабаецца, што Беларусь пачала мяняцца. Пачаліся салідарныя дзеянні, так шмат узаемадапамогі. Многія з тых, хто бачыў гвалт міліцыі, не могуць заставацца простымі назіральнікамі. Дапамагалі арганізаваць транспарт, зрабіць перадачу, дапамагалі медыцынскімі паслугамі.

Агулам пасля палітычных мерапрыемстваў у Маладзечне затрымалі больш за 250 чалавек. І недзе палова з іх не выйшла з намі на кантакт. Некаторых звезлі ў іншыя гарады, яны выходзілі і не ведалі пра нашу суполку. Да ініцыятывы далучыліся праваабаронцы, гатовая бясплатна дапамагчы юрыдычная кансультацыя №2.

Многія выйшлі з псіхалагічным прыгнётам. Некаторым патрэбная была дапамога, каб скласці скаргу ў Следчы камітэт на беззаконныя дзеянні сілавікоў. Спадзяюся, усе гэтыя справы будуць разглядацца ў будучым справядлівым судом.

Аднаго мужчыну шпіталізавалі пасля збіцця сілавікамі. Абяцалі лячэнне да верасня, а пасля падачы скаргі ў Следчы камітэт вырашылі, што яго можна выпісваць. Нават пасля ўсяго гэтага дзяржаўныя органы не прызнаюць свае дзеянні, і нават працягваюць ціск.

Аказваць псіхалагічную дапамогу далучыліся многія арганізацыі па Маладзечанскім раёне. Па гэтым пытанні можна звярнуцца ці да нас, ці адразу да іх.

Але і псіхолагі ўпершыню сутыкаюцца з такімі праблемамі. Так што для спецыялістаў гэта таксама выклік. У Мінску праводзілі трэнінг, каб хутка навучыць спецыялістаў.

### Некаторыя выходзілі і ні з кім не размаўлялі

Былі такія выпадкі, калі людзі выходзілі з ізалятара часовага ўтрымання і нават з намі, валанцёрамі, не размаўлялі. Іх там настолькі запужалі, што баяцца абскарджваць свае прыгаворы. Да таго ж ім давядзецца вярнуцца і даседжваць свае суткі. Людзі псіхалагічна і так няўстойлівыя, а яшчэ разумеюць, што ў любы момант іх могуць забраць туды. Таму вельмі-вельмі важна ўсім пацярпелым звярнуцца да нас ці любой іншай ініцыятывы, якая аказвае псіхалагічную дапамогу. Калі гэта кінуць, могуць быць больш сур'ёзныя наступствы.

Многім людзям пашкодзілі, напрыклад, мабільныя тэлефоны, і набыць сабе новы для многіх складана. Таму мы арганізавалі збор сродкаў, каб дапамагаць у тым ліку з матэрыяльнымі рэчамі.

> **У некаторых затрыманых выбітыя зубы. Спадзяюся, у горадзе знойдуцца стаматалагічныя цэнтры, якія гатовыя ім дапамагаць.**

Гісторыі затрыманых не могуць не ўразіць. Сярод іх былі людзі, якія прыехалі з вёсак, якія былі нязгодныя з тым, што адбываецца, што іх галасы скралі. Выйшлі на мірны мітынг, каб іх пачулі. З сям'ёй аднаго з іх сустрэліся каля міліцыі. Чалавек відаць, што вельмі мяккі і добры, а яго брат у ізалятары. Мяне кранула, як ён перажываў за брата, кожны дзень прыходзіў і даведваўся, як ён. Былі выпадкі, калі людзям не казалі праўду пра тое, дзе знаходзіліся іх родныя. За гэта было адначасова і крыўдна, і злосна – ну як так можна ставіцца? Людзі прыйшлі даведацца пра сваіх родных, іх стан, дзе яны, а ім нават такую інфармацыю не даюць, а калі і даюць, яна няпраўдзівая.

> **Калі людзі выходзілі і расказвалі пра тое, што адбывалася за агароджай міліцыі, гэта моцна ўражвала. Мне было вельмі складана эмацыйна бачыць усё гэта. Часам было складана стрымліваць слёзы. Сярод затрыманых былі і знаёмыя.**

Міліцыя пайшла на кантакт з намі адзін раз. 11 жніўня далі спіс затрыманых за 9 і 10 жніўня.

11 ці 12 жніўня мы бачылі, што ў спісе ёсць

# звяртацца па дапамогу»

## рух дапамогі пацярпелым на мітынгах



Фота забяспечана Канстанцінам ЧЫКАЛАВЫМ.

Канстанцін Чыкалаў на Камчатцы.

**– Мне вельмі падабаецца, што Беларусь пачала мяняцца. Пачаліся салідарныя дзеянні, так шмат узаемадапамогі. Многія з тых, хто бачыў гвалт міліцыі, не могуць заставацца простымі назіральнікамі. Дапамагалі арганізаваць транспарт, зрабіць перадачу, дапамагалі медыцынскімі паслугамі.**

**– Канстанцін Чыкалаў.**

дзяўчаты, яны расказвалі, што іх таксама збівалі. Але ёсць яшчэ каля дзесяці дзяўчат, якія не выйшлі з намі на сувязь. Пасля мы зразумелі, што некаторых людзей выпускалі ноччу, калі валанцёры не дзяжурылі.

**Магчыма, гэта рабілі наўмысна, каб мы з імі не сустрэліся, не маглі распытаць, што з імі адбывалася, сфатаграфаваць.**

Для нас важна, каб людзі, якія былі затрыманыя, звярталіся па дапамогу – юрыдычную, матэрыяльную і псіхалагічную. Нашы рэсурсы не бясконцыя, але мы гатовы дапамагаць. І самі затрыманыя, і іх блізкія цягам месяца могуць спраўляцца самастойна з псіхічным станам. Але ёсць верагоднасць развіцця посттраўматычнага сіндрома, які можа ў іх праявіцца, і вывесці з яго будзе больш складана. Таму пацярпелым варта тэрмінова звяртацца па дапамогу.

**Калі вас або вашых сваякоў затрымалі за ўдзел у палітычных мерапрыемствах, ёсць людзі, якія гатовыя вам дапамагчы. Каб атрымаць псіхалагічную, юрыдычную або матэрыяльную дапамогу, звярніцеся ў тэлеграм-суполку by_help Molo.**

### Актывізм пачаўся з экалогіі

Мы папрасілі Канстанціна падрабязней расказаць пра тое, як ён прыйшоў да актывізму. Аказалася, што ўсё пачалося з любові да прыроды.

Маладзечанец Канстанцін Чыкалаў – адзін з заснавальнікаў грамадскай арганізацыі «Багна». Ад 2012 года займаліся абаронай беларускіх балот, ад 2014 года займаемся абаронай дзікай прыроды. Асаблівай увагай надзяляюць тыя тэрыторыі і віды, якія маюць каштоўнасць і важныя для захавання.

– Я ўсё жыццё быў актыўным. Са школы цягнула да экалогіі, абароны прыроды. Вучыўся на хіміка-біялагічным кірунку ў гімназіі №10. Калі ў старэйшых класах запрасілі перад класам расказаць, кім марыць стаць, агучыў, што хачу стаць абаронцам прыроды. Заўсёды любіў вандраваць, бавіць час у лесе, заўсёды быў з прыродай. Тата працуе доктарам, мама – бібліятэкарам. Так што я заўсёды чытаў часопісы «Вокруг света», GEO, National Geographic.

**Пасля школы пайшоў вучыцца ва ўніверсітэт імя Сахарава на медыка-біялагічную справу. Спадзяваўся атрымаць патрэбныя веды, але на справе аказалася, што гэта зусім не тое, што цікавіла. Убачыў, што памыліўся з выбарам.**

Сустрэў валанцёрскую праграму, дзе прапаноўвалі на год паехаць на Камчатку і працаваць у прыродным парку. Менавіта гэта мяне заўсёды вабіла. Даслаў дакументы, і мяне прынялі. Той час 2010-2011 быў для мяне неверагодным. У Беларусі тады таксама было шмат падзей. Сачыў праз інтэрнэт і перажываў за краіну.

Праца на Камчатцы была разнастайная. Займаліся навуковай дзейнасцю, сачылі за птушкамі, жывёламі. Адзначалі іх, лічылі ў дзікай прыродзе, пракладалі маршруты, каб весці навуковыя назіранні за прыродай. Дапамагалі рамантаваць і будаваць турыстычную інфраструктуру для прыродных паркаў.

**Два месяцы я пражыў у дзікай прыродзе ў паляўнічым доме. Там жыў, назіраў за прыродай, запісваў з'явы.**

Баранілі месца нерасту ласося ад браканьераў. Былі заўсёды без зброі, хаця там было шмат мядзведзяў. На маё шчасце, небяспечных выпадкаў з мядзведзямі не было. Неяк за адзін дзень сустрэлі 11 мядзведзяў, яны заўсёды збягалі. Для мяне сустрэць дзікую жывёліну ў прыродзе – заўсёды шчасце і нешта незвычайнае.

Была небяспечная сітуацыя зімой. Дарог на Камчатцы няма, а часам трэба даехаць у аддаленае месца. Часта ездзілі па прыродным парку з інспектарамі, якія там працавалі. Выязджаем, і раптам пачынаецца бура. Перастаеш бачыць, куды едзеш, губляешся. Адзіны варыянт – рушыць па навігатары, але ж ты не бачыш, што наперадзе. Было, што ў снегаходзе заселі ў полі. Трэба было пазмагацца, каб не застацца там, у тундры, на ноч.

Калі вярнуўся, яшчэ доўга ўсё гэта перажываў, часта прыгадваю Камчатку ў размовах з сябрамі. У многіх ёсць мара туды паехаць. Мне самому хацелася б туды вярнуцца.

### Абараняў балоты

Калі вярнуўся ў Беларусь, даведаўся, што тут ёсць праблема з балотамі. Працягваюць праводзіць асушэнні, і акурат у межах прыродных тэрыторый, што па законе забаронена. Атрымліваецца, дзяржаўныя органы заплюшчылі вочы на статус тэрыторый і гатовы былі адрэзаць кавалак, каб аддаць пад здабычу торфу.

Мы сабраліся ініцыятывай, арганізавалі нацыянальную кампанію «У абарону беларускіх балот», нават атрымалі ўзнагароды за дзейнасць. За час працы арганізацыі ўдалося захаваць чатыры балоты. Мы дамагліся таго, каб удзельнічаць у распрацоўцы закона «Аб ахове і выкарыстанні балот», у выніку чаго магчыма захаваць усе некранутыя балоты. А торф здабываюць з балот, якія былі раней асушаныя. Іх трэба ці забалочваць, ці спачатку выбраць торф, і ўжо пасля гэтага ўзнаўляць.

### Экалогія і палітыка

У нашай дзейнасці сутыкаліся з праблемамі, калі працавалі з дзяржаўнымі ўстановамі. Калі мы толькі пачыналі супрацоўніцтва з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, яно вырашала нашмат больш пытанняў. Хацелася б больш смелых крокаў з іх боку, а не адмоўчвання.

**Зразумеў, што гэта прэзідэнцкая кампанія будзе іншай, калі да яе далучыліся людзі, раней зусім далёкія ад палітыкі.**

Прыход гэтых людзей стаў промнем святла, і гэта моцна натхніла на новыя крокі, быць смелым і рашучым.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**




Артыкул створаны ў межах праекта RegiON (уключаючы рэгіён).

# Як у Маладзечне і Валожыне прайшлі акцыі «За Беларусь»

**Цягам гадзіны вечарам 20 жніўня доўжылася афіцыйная грамадска-культурная акцыя «За Беларусь!» у Маладзечне. Падобнае мерапрыемства зладзілі і ў Валожыне.**

На акцыі сабралася не больш за тысячу чалавек, па ацэнках нашых карэспандэнтаў. На сцэну выходзілі чыноўнікі і некалькі простых людзей.

### «Гэта наша краіна!»

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Юры Горлаў** быў першым выступоўцам. Ён адзначыў, што, нягледзячы на пандэмію каронавіруса і іншыя непрыемнасці, сабралі годны ўраджай у гэтым годзе. Па словах Горлава, Маладзечна – прамысловы індустрыяльны горад, а бюджэт Маладзечанскага раёна выконваецца на 100%.

– Неспакойна сёння на нашых вуліцах. Хачу сказаць, каб мы не гублялі пільнасць, таму што гэта наша краіна! Мы яе будавалі! Мы яе развівалі! Усіх маладзечанцаў, нашых грамадзян, заклікаю да міру, спакою, дыялогу, каб мы маглі спакойна жыць, як раней, – дадаў Горлаў.

На сцэне выступіла і прадстаўнік прафсаюзаў Маладзечанскага раёна **Таццяна Яцухна**. Яна адзначыла, што супраць гвалту з абодвух бакоў, супраць ціску на педагагаў, сямей міліцыянераў, медыцынскіх работнікаў і простых жыхароў нашага раёна. Яцухна падзялілася, што выступае за стабільнасць і захаванне рабочых месцаў. Яна заклікала спыніць беспарадкі на вуліцах і даць магчымасць жыць і працаваць.

– Мы з павагай ставімся да розных пунктаў гледжання, але толькі ў рамках мірнага дыялогу.

### «Вы што, працаваць не ўмееце? Вас навучыць?»

У нейкі момант на сцэну паднялася жанчына сталага ўзросту. Яна выступіла з экспрэсіўнай прамовай.

– Я за сябе ўжо не адказваю. Я не магу спаць, я не магу жыць, я не магу хадзіць па гэтай зямлі. У нас завялася цвіль, але мы яе знішчым. Што яны сабе дазваляюць? Гэтыя сволачы, прабачце за такія грубыя словы, урываюцца ў электрычку. Там едуць дадому пасля сутак, пасля паўтара сутак, адслужыўшы, памежнікі, едуць жанчыны маладыя. Яны сарвалі з іх пагоны, яны разарвалі форму, і яны паўголыя ехалі да Маладзечна. Гэта добра ці кепска? Што вы сабе дазваляеце? Вы стаіце з кветкамі, якія вы прыгожыя. Я ехала на мінулым тыдні на пахаванне. Я не зразумела раніцай, чаму столькі смецця. Чаму «Камунальнік», чаму гэтыя людзі – пенсіянеры, маладыя людзі – прыбіраюць за вамі?

> **Вы што, працаваць не ўмееце, так? Вас навучыць? Мы вас навучым працаваць! Я за Лукашэнку «порву вам пасть», зразумелі?**

На мерапрыемстве выступаў і чалавек у вайсковай форме. Ён сказаў, што знешнія сілы спрабуюць паставіць беларусаў пад розныя сцягі і ўцягнуць ледзь не ў рэчышча вайны, а дагэтуль 75 год жылі ў міры.

– Але частка нашага грамадства, якая знаходзіцца на плошчы, не разумее, што робіць, хоча кінуць нас у хаос. Калі пачнуць паміраць нашы сыны, бацькі, назад нічога нельга будзе вярнуць. Натоўп не павінны вырашаць лёс краіны. Калі Лукашэнка перамог, пасля гэтага ў краіне наступілі мір і згода. Мы сталі называць яго «бацькам», – сказаў вайсковец са сцэны.

### Член Савета Рэспублікі – на сцэне акцыі і за рулём аўтапрабегу

На мерапрыемстве выступіла дырэктар школы №14 і член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **Каліна Капуцкая**. Яна адзначыла, што ніколі не забудзе, што яе дзед заваяваў перамогу ў вайне і забяспечыў жыццё ёй і беларусам.

– За гэтыя 26 год мы пабудавалі моцную, квітнеючую, мірную краіну. І сёння ў такі няпросты час усе дасягненні могуць быць разбураныя. Нас хочуць раздзяліць на сваіх і чужых. Пасеяць у нас нянавісць і злосць. Не вядзіце вулічную палітыку, таму што ўсе важныя пытанні вырашаюць толькі ў кабінеце, толькі за сталом перамоў. Сёння тут сабраліся людзі, якія ўмеюць думаць, аналізаваць, падвяргаць сумненню. Тут сабраліся людзі, якія разумеюць, што сёння пытанне стаіць ужо не ў выніках выбараў, а ў захаванні нашай краіны.



Фота Уладзіслава НЯПОМНЯШЧЫХ.

На акцыі ў Валожыне.

23 жніўня Каліна Капуцкая ўдзельнічала ў аўтапрабегу пад дзяржаўнымі сцягамі Беларусі. Карэспандэнты налічылі не менш за 15 аўто, у якіх былі схаваныя нумарныя знакі налепкай «За Беларусь!». Яна кіравала аўтамабілем «Фольксваген», трымала папяровы дзяржаўны сцяг. У аўто Капуцкай таксама былі заклееныя нумары.

Журналісты «Рэгіянальнай газеты» патэлефанавалі прадстаўніку Маладзечанскай ДАІ па каментар з нагоды таго, што па Вялікім Гасцінцы ездзяць не менш за 15 машын з заклеенымі нумарамі. ДАІ адказала, што да іх звяртаюцца з такімі паведамленнямі, яны выязджаюць на выклікі.

> Згодна з часткай 6 артыкула 18.12 КаАП кіраванне транспартным сродкам з загадзя схаваным, падробленым (падкладзеным) або іншым чынам зменены рэгістрацыйным (нумарным) знакам, ідэнтыфікацыйным нумарам кузава або шасі або без прысвоенага рэгістрацыйнага (нумарнога) знака – штраф 10-20 базавых велічынь (ад 270 да 540 рублёў).



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Каліна Капуцкая за рулём аўто.

### А як у Валожыне?

20 жніўня на плошчы Свабоды ў Валожыне прайшоў мітынг «За Беларусь! За мір і спакой у краіне». Тэрыторыю плошчы абнеслі жалезнай агароджай, прайсці можна было толькі праз прапускныя пункты з кантролем міліцыі.

На плошчы сабралася каля 250 чалавек. У руках людзей дзяржаўныя сцягі і надрукаваныя плакаты: «Мы за мір і стабільнасць», «Не разрывайце нашу Беларусь», «Не дадзім разваліць краіну».

Роўна ў 18:00 мітынг пачаўся. Першым выступіў старшыня Валожынскага райвыканкама **Яўген Круковіч**. Старшыні з мікрафонам дапамагаў начальнік па ідэалагічнай рабоце **Віценці Адамовіч**.

– Мы ў адказе за нашу рэспубліку і мы яе не аддадзім. За Беларусь! – праскандзіраваў старшыня.

Публіка падтрымала выступоўцу.

– Мы паважаем выбар кожнага, але хочам, каб паважалі меркаванне большасці.

Скончыў сваю кароткую прамову старшыня новым для нашага рэгіёна слоганам:

– За бацьку.

Далей мікрафон перайшоў да людзей, якія стаялі пад сцэнай. Выступоўцы не прадстаўляліся.

Выйшла пенсіянерка. Распавяла пра Украіну. Кажа, што там зарплата маленькая, пенсіі маленькія.

– А ў нас у рэспубліцы падкупленыя маладыя людзі з рэчмяшкамі ідуць на вуліцу. У гэтых мяшках зброя, накіраваная супраць праваахоўных органаў, супрацоўнікаў АМАПа, – сцвярджала выступоўца.

Скончыла сваё выступленне лозунгам: «За бацьку! За родную Беларусь!»

Наступная выступоўца распавяла, што прыйшла сюды выпадкова, але ёй ніхто не перашкаджаў. «Няхай ніхто не перашкодзіць нам жыць спакойна», – заявіла яна. У асноўным выступаюць пажылыя людзі, расказваюць, як цяжка жылося раней у 90-я і як добра і спакойна цяпер.

– Ніхто іх туды сілай не адпраўляў, яны пайшлі самі. Вядома, шкада, што так здарылася. Ніхто нікому не жадаў смерці, проста любая рэвалюцыя прыносіць ахвяры. Так, людзі, можа, выйшлі з мірнымі мэтамі. Але былі сярод іх тыя, хто нагнятаў становішча, – мяркуе Людміла, якая працуе на валожынскай пошце.

– Прыйшоў падтрымаць нашага прэзідэнта. Каму патрэбныя гэтыя беспарадкі пасля выбараў? Хто выступае супраць, таму і патрэбныя гэтыя беспарадкі, – распавёў інжынер Леанід.

Леанід прызнаецца, што сцяг у яго вісіць на доме, ён яго зняў і прыйшоў на мітынг. Дарэчы, калі мітынг скончыўся, Леанід апынуўся адзіным, хто пайшоў па вуліцы са сцягам. Астатнія ўдзельнікі здалі свае сцягі чалавеку за сцэнай і пайшлі ўжо са свабоднымі рукамі. Вялікая частка мітынгоўцаў пасля заканчэння мерапрыемства накіравалася на стаянку каля рэстарана «Іслач», дзе іх чакалі школьныя аўтобусы. Мы налічылі мінімум чатыры такія аўтобусы. Мітынгоўцы селі ў аўтобусы і раз'ехаліся.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Маладзечне прайшоў чарговы тыдзень мірных пратэстаў і акцый

**У Маладзечне прайшоў яшчэ адзін тыдзень мірных пратэстаў і акцый, аднак ён адрозніваўся ад іншых. Упершыню ад 12 жніўня да людзей выйшлі міліцыянеры з патрабаваннямі разысціся.**



Людзі на плошчы пасля шматтысячнага шэсця 23 жніўня.

### Акцыя ў падтрымку свабоды і правоў чалавека

21 жніўня маладзечанцы сустрэліся на Цэнтральнай плошчы, дзе прайшла акцыя ў падтрымку свабоды і правоў чалавека.

**На імправізаванай сцэне выступалі прадстаўнікі ініцыятыўнай групы, музыкі і жыхары Маладзечна, а медыкі мералі ахвотным ціск і распавядалі пра псіхалагічную дапамогу ахвярам гвалту.**

Лідар жаночай салідарнасці Маладзечна **Алеся Каролік** расказала, што збіраюць подпісы пад зваротам да прадстаўнікоў маладзечанскіх арганізацый Чырвонага крыжа, Беларускага фонду міру, Беларускага саюза жанчын.

Прадстаўнік «Маладзечнамэблі» расказаў, што на іх прадпрыемстве кіраўнік не забараніў збіраць подпісы пад зваротам да старшыні райвыканкама Горлава з пытаннямі ад калектыву. Заклікае і іншыя калектывы далучацца да салідарнасці і не баяцца.

На сцэне выступілі музыкі. Цягам мерапрыемства падцягваліся людзі, нашы карэспандэнты адзначаюць, што на акцыі было каля 3000 жыхароў Маладзечна.


Міліцыянер просіць разысціся.



Фота Настассі УТКІНАЙ.
Акцыя жаночай салідарнасці супраць гвалту 22 жніўня.

### «Выйду замуж за пратэстоўца»

22 жніўня маладзечанскія жанчыны выйшлі на акцыю салідарнасці. Яны стаялі ля галоўнага ўвахода ў парк. У дзяўчат былі плакаты «Выйду замуж за пратэстоўца», «Мы супраць гвалту», «У беларусаў можа страляць толькі купідон», «Кветкі лепш за кулі», «Збівае – значыць, сядзе».

### Шэсце пад бел-чырвона-белымі сцягамі

23 жніўня ў Маладзечне прайшло шматтысячнае шэсце ад Лядовага палаца да Цэнтральнай плошчы.

Людзі пачалі збірацца каля Лядовага палаца да дзвюх гадзін. У гэты ж час міма праязджалі аўтамабілі са схаванымі нумарамі і з дзяржаўнымі сцягамі. У адной з такіх машын за рулём знаходзілася Каліна Капуцкая, дырэктар 14-й школы Маладзечна і член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Калона дэманстрантаў накіравалася ад Лядовага палаца да Цэнтральнай плошчы. На скрыжаваннях людзі віталі пратэстоўцаў, некаторыя далучаліся да іх.

На плошчы каля політэхнічнага каледжа стаялі два аўтамабілі міліцыі. Людзі падышлі да сквера, не заходзілі на плошчу. А калі калона рушыла па плошчы, то міліцыянер у мегафон аб'явіў, што гэта мерапрыемства лічыцца несанкцыяніраваным, а людзей прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці.

Аднак людзі не звярталі ўвагі на міліцыянераў, якія стаялі побач з дэманстрантамі. Словы супрацоўніка органаў натоўп заглушаў скандзіраваннямі «Гэта наш горад», «Ганьба», «Жыве Беларусь».

Міліцыянер папрасіў у мегафон падысці арганізатараў мерапрыемства, каб правесці гутарку. У адказ з натоўпу крычалі: «Мы ўсе арганізатары», «Мы свабодныя людзі», «Надакучыла баяцца», «Гэта наш горад». Мужчына з натоўпу крыкнуў з запытам да міліцыянера: «Выйсці, каб потым знайшлі ў лесе пад Мінскам» – гэта была спасылка да загінулага **Мікіты Крыўцова**.

Увесь час на плошчы гучалі песні пра Беларусь. У нейкі час з калонак на плошчы гучала песня «Саня останется с нами».

На плошчы з'явілася некалькі дзясяткаў міліцыянераў у бронекамізэльках і з дубінкамі. Тады натоўп пачаў разыходзіцца ў бок рынку, парку і гасцініцы.

Вечарам людзі зноў сабраліся на плошчы. Ішоў дождж, таму прыйшло не больш за сто чалавек. Амаль адразу да іх падышлі міліцыянеры ў цывільным і форме. Яны заявілі, што людзі сабраліся незаконна, таму просяць іх разысціся. Людзі спрабавалі спрачацца, аднак ніякага выніку гэта не дало, таму яны разышліся.

**Аддзел інфармацыі.**

### Месі вырашыў сысці з «Барселоны»

Аргенцінскі форвард «Барселоны» Ліянэль Месі вырашыў пакінуць каманду пасля размовы з галоўным трэнерам **Рональдам Куманам**, паведамляе As.

Раней Месі паведаміў клубу аб жаданні сысці. «Барселона» пацвердзіла атрыманне паведамлення ад футбаліста.

**Клуб вырашыў не даводзіць справу з кантрактам Месі да суда. «Барселона» хоча, каб трансфер Месі быў самым дарагім у гісторыі.**

Месі дэбютаваў у складзе першай каманды «Барселоны» ў 2004 годзе. Разам з клубам аргенцінец выйграў дзесяць разоў чэмпіянат Іспаніі і шэсць разоў Кубак Іспаніі, таксама чатыры разы станавіўся пераможцам Лігі чэмпіёнаў. Акрамя таго, Месі з'яўляецца шасціразовым уладальнікам «Залатога мяча».

**Паводле as.com.**

### Дзмітры Баскаў можа стаць кіраўніком федэрацыі хакея Беларусі

Генеральны дырэктар мінскага «Дынама» Дзмітры Баскаў у бліжэйшы час можа змяніць **Генадзя Савілава** на пасадзе кіраўніка Федэрацыі хакея Беларусі.

Ад мая 2017 года Баскаў займае пасаду намесніка старшыні гэтай структуры, а таксама з'яўляецца членам выканкама Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

У 2013 годзе Баскаў узначаліў СДЮШАР БФСТ «Дынама». Тры гады школа займала першае месца ў рэспубліканскім медальным заліку.

**Баскаў трэніраваў каманду Мікалая Лукашэнкі. Самым паспяховым стаў сезон-2016/2017, калі ўсе восем камандаў фінішавалі ў тройцы прызёраў, а шэсць з іх заваявалі залатыя медалі.**

Выхаванцы дынамаўскай школы рэгулярна выклікаліся ў моладзевыя і юнацкія зборныя, а таксама прыцягваюцца да асновы мінскага «Дынама».

**Паводле championat.com.**



Апошні раз, калі Аляксей Кудзін трапіў у аб'ектыў камеры карэспандэнта 10 жніўня.

# Аляксей Кудзін заявіў, што прымяніў навыкі адзінаборцы супраць міліцыі

**Беларускі баец змяшаных адзінаборстваў Аляксей Кудзін, шматразовы чэмпіён свету па тайскім боксе, распавёў пра падрабязнасці свайго затрымання на акцыі пратэсту тэлеканалу СТБ.**

Ён звярнуўся да жыхароў Маладзечна і беларусаў, асабліва да спартсменаў і адзінаборцаў. Ён распавёў, што прысутнічаў 10 жніўня на маладзечанскай плошчы толькі для таго, каб паглядзець, што за акцыя там будзе адбывацца.

– Атрымалася такая сітуацыя, што я, не жадаючы таго, прычыніў цялесныя пашкоджанні супрацоўнікам унутраных спраў, у чым моцна раскайваюся, таму што ўжыў свае навыкі адзінаборцаў, а я 21 год займаюся адзінаборствамі. І таму мае ўчынкі мяне не ўпрыгожваюць.

Кудзін звярнуўся да спартсменаў і рэкамендаваў адстойваць свае палітычныя погляды ў мірных акцыях, а таксама не біцца з іншымі грамадзянамі ці супрацоўнікамі ўнутраных органаў.

– Яны таксама нясуць сваю службу, нясуць забеспячэнне парадку, – адзначыў Аляксей.

Кудзін дадаў, што не лічыць сябе палітычным зняволеным.

– Мне гэта абсалютна не трэба, таму што я спартсмен, дзеючы спартсмен, і я хачу далей выступаць пад сцягам сваёй краіны. У зробленым на самой справе раскаяўся. Пры той сітуацыі, якая там складвалася, я павінны быў пакінуць тое месца, чаго не зрабіў.

Раней паведамлялася, што Кудзін знаходзіцца ў статусе абвінавачанага. Сілавікі лічаць, што ён збіў супрацоўніка міліцыі. 25 жніўня стала вядома, што яго перавялі пад дамашні арышт. Да гэтага ён знаходзіўся ў Жодзінскім СІЗА.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## У Беларусі пачаў працаваць Фонд спартыўнай салідарнасці

**У Беларусі пачаў працу Фонд спартыўнай салідарнасці, які аказвае падтрымку спартсменам, якія пацярпелі ад рэпрэсій.**

Фонд стварылі па ініцыятыве прадстаўнікоў спартыўнай супольнасці. У яго звароце сказана, што ад 16 да 21 жніўня амаль 350 прадстаўнікоў спартыўнай галіны падпісаліся пад калектыўным зваротам да беларускіх уладаў – з патрабаваннямі аб непрызнанні вынікаў прэзідэнцкіх выбараў-2020 ды спыненні гвалту і вызвалення ўсіх палітычных зняволеных.

У выпадку рэпрэсій у дачыненні да прадстаўнікоў супольнасці, спартсмены выказалі гатоўнасць дзейнічаць салідарна, аж да адмовы выступлення за нацыянальную зборную.

У ліку тых, хто падпісаўся, – чэмпіёны Еўропы па лёгкай атлетыцы **Вольга Мазуронак**, **Эльвіра Герман**, **Марына Арзамасава**, чэмпіён свету і Еўропы па самба **Сцяпан Папоў**, сярэбраны прызёр Алімпійскіх гульняў-2008 і чэмпіён Еўропы па лёгкай атлетыцы **Андрэй Краўчанка**, двухразовы прызёр Алімпіяды ў плаванні **Аляксандра Герасіменя**, чэмпіён Алімпійскіх гульняў-1980 па веласпорце **Алег Логвін** і Алімпійская чэмпіёнка па **фрыстайле Ганна Гуськова**, чэмпіёнка свету па фрыстайле **Аляксандра Раманоўская** і многія іншыя. У ліку тых, хто падпісаўся, ёсць і маладзечанскі баксёр **Дзмітры Асанаў**.

На многіх з іх быў аказаны моцны ціск – спартсменаў і супрацоўнікаў выклікалі на сустрэчы з кіраўніцтвам Міністэрства спорту і сілавых структур. Ад большасці патрабавалі адклікаць подпіс. У адваротным выпадку пагражалі звальненнем, скарачэннямі выплат і стыпендый, выключэннем са складу нацыянальнай каманды.

Задачай фонду з'яўляецца падтрымка спартсменаў, якія пацярпелі за сваю грамадзянскую пазіцыю, а таксама тых, хто гатовы адкрыта выказвацца пра падзеі, што адбываюцца ў Беларусі. Фонд таксама будзе аказваць юрыдычную, матэрыяльную і псіхалагічную падтрымку пацярпелым прадстаўнікам спартыўнай галіны.

Фонд спартыўнай салідарнасці выбудоўваецца на пляцоўцы агульнага фонду салідарнасці з пацярпелымі ад палітычных рэпрэсій грамадзянамі Беларусі, які ўжо сабраў амаль два мільёны еўра ахвяраванняў.

Беларускі фонд спартыўнай салідарнасці будзе фіксаваць факты рэпрэсій у дачыненні да прадстаўнікоў галіны і накіроўваць адпаведныя паведамленні ў міжнародныя спартыўныя інстытуты для прыняцця мер. Разглядаецца таксама пытанне аб унясенні шэрагу спартыўных чыноўнікаў у «чорны спіс» ЕС.

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Пасудзіна з носікам і ручкай, у якой заварваюць чай або гатуюць ваду.
3. Мера даўжыні, роўная 2,54 см.
6. Калі з ім здарылася бяда, персанал спачатку падаваў больш стары сігнал бедства CQD. Адказу не атрымалі, таму пачалі падаваць сігнал SOS, уведзены ў 1906 годзе як больш запамінальны і просты.
8. Гэты элемент інтэр'еру ў многіх скандынаўскіх дамах выкарыстоўваюць не так, як прывыклі ва ўсім свеце ці не адмаўляюцца ўвогуле.
9. Бываюць умоўныя і безумоўныя.
11. Які не ўжывау спіртнога; не п'яны.
14. Спрытны ў рухах.
18. Вялікі прамежак часу ў развіцці прыроды, грамадства, навукі.
19. Першым лагатыпам Apple была выява гэтага вучонага.
20. Невялікі паэтычны твор для спеваў.
21. Гэту гульню прыдумаў амерыканец Чарльз Дэроў у часы Вялікай амерыканскай дэпрэсіі, якая разбурыла яго бізнес. Пачаў маляваць на абрусе, а пасля знайшоў спосаб зрабіць гульню папулярнай.
26. Асобнае памяшканне, аддзяленне ў вагоне для некалькіх пасажыраў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Яны забароненыя ва ўсіх гэтых гарадах: Гітхорн у Нідэрландах, Ідра ў Грэцыі, Свіяжск у Расіі, Венецыя ў Італіі, Макіно-Айленд у ЗША, Адзіна ў Мальце.
4. З гэтага незвычайнага матэрыялу робяць асфальт на востраве Гуам у Ціхім акіяне.
5. Тое, чым можна забаўляць дзіця.
7. Людзі хочуць, каб ён уключаўся. Але калі ўключаецца, злуюцца.
8. Расплаўленая ці застылая маса розных прымесей, попелу і флюсаў, якая з'яўляецца пабочным прадуктам металургічнай вытворчасці.
10. Дзейная сіла, спалучаная з настойлівасцю ў дасягненні пастаўленай мэты.
12. У сярэднім за жыццё ў кожнай жанчыны іх чатыры.
13. Які характарызуецца стабільнасцю формы пры нармальных умовах, у адрозненне ад вадкага і газападобнага.
15. У каго дочкі, той ходзіць без …
16. Каманда, асабовы састаў карабля, самалёта, танка.
17. Чалавек у пераходным узросце.
18. Праверка ведаў па якім-небудзь вучэбным прадмеце.
22. Прозвішча кіраўніка паўстання 1863-1864 гадоў у Ашмянскім раёне. Яго атрад разбілі пад Расолішкамі, там узялі ў палон і пакаралі смерцю. Ад пакарання выратаваў хабар, дзякуючы якому прысуд замянілі на 12 год катаргі ў Сібіры.
23. Імя аўтара фразы: «Гэта маленькі крок для чалавека, але гіганцкі скачок для ўсяго чалавецтва».
24. Рашучае пярэчанне супраць чаго-небудзь, заява аб нязгодзе з чым-небудзь.
25. Не чорны і не белы.

## Адказы на крыжаванку з №34

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Баец. 2. Легенда. 4. Праца. 7. Куфар. 10. Павестра. 11. Нітка. 12. Гараж. 13. Пратэст. 14. Брук. 15. Ланцуг. 17. Град. 20. Лепш. 21. Гадавіна. 22. Базар. 23. Пункцір.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Ацэнка. 5. Балада. 6. Асфальт. 8. Багацце. 9. Кісларод. 13. Праект. 16. Афіцэр. 17. Грэх. 18. Ахова. 19. Галіна. 24. Навука. 25. Лагер.

## ● ГАРАСКОП НА 28 ЖНІЎНЯ – 3 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Дзейнічайце! Цяпер у вас такі перыяд, калі размаўляць няма калі, трэба працаваць. Даверцеся зоркам, і ў вас дакладна ўсё атрымаецца.



**ЦЯЛЕЦ.** Будзьце пільныя з абяцаннямі. Часам лепш абяцаць менш, а рабіць больш. Гэта прыемна ўразіць і вас, і вашых блізкіх. Адчуваць сябе стомленым – цалкам нармальна. У такія моманты важна дазволіць сабе адпачынак. Калі ж бясконца сябе загружаць, нічога добрага не атрымаецца.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам абавязкова трэба пазітыўныя эмоцыі. Гэта можа быць як сустрэча з сябрамі, так і паездка на прыроду. Падумайце, чаго вам даўно хацелася, і абавязкова гэта зрабіце.



**РАК.** Будзьце акуратныя з анлайн-перапіскамі. Часам інтанацыя вырашае ўсё. На гэтыя граблі трапляліся многія. Каб такое непаразуменне не напаткала вас, аддайце ў гэты перыяд перавагу размовам ужывую.



**ЛЕЎ.** Вам захочацца ўсяго і адразу. Але атрымаць такое не толькі складана, але і нецікава. Нашмат больш задавальнення вы атрымаеце, калі будзеце дасягаць патрэбнага паступова. Не спяшайцеся, і тады ўсё будзе.



**ДЗЕВА.** Гэты тыдзень вы будзеце купацца ў любові і захапленні. Толькі паглядзіце, колькі вакол вас шчырых сяброў і знаёмых, якія паважаюць вас і любяць. Адчуйце гэта і зразумейце – усю гэту любоў вы абсалютна заслужылі.



**ШАЛІ.** Калі вы ў нечым няўпэўненыя, лепш пакуль адкласці важныя рашэнні і справы. Збярыце больш інфармацыі і звестак, каб мець поўную карціну і ўбачыць сітуацыю аб'ектыўна.



**СКАРПІЁН.** Дайце сваім пачуццям і эмоцыям поўную свабоду. Няхай нічога вас не стрымлівае. У рэшце рэшт, вы можаце сабе дазволіць быць такімі, якія ёсць.



**СТРАЛЕЦ.** У гэты перыяд вы будзеце асабліва адчувальныя. Варта даверыцца свайму сэрцу. Яно дакладна вас не падманвае. Няхай вашы рашэнні будуць прадыктаваныя ўласнымі жаданнямі. Гэта дакладна будзе на вашу карысць.



**КАЗЯРОГ.** Вам давядзецца пастаяць за сябе. Вы з гэтым выдатна справіцеся і пакажаце крыўдзіцелю, што так сябе паводзіць з вамі нельга. Таму што, калі вас разззлаваць, то суняць ужо вельмі няпроста.



**ВАДАЛЕЙ.** У вас у галаве ўжо новыя праекты і справы. Але перш чым узяцца за іх, лепш закрыць і здаць тыя справы, якімі займаецеся цяпер. Але і пасля гэтага не спяшайцеся акунуцца з галавой у новыя задачы. Дайце сабе дзень-два на цішыню і адпачынак.



**РЫБЫ.** Гэты тыдзень будзе для вас проста неверагодны. У вас столькі ідэй, і многія з іх будуць увасабляцца адна за адной. Што б вы ні задумалі, прыкладзіце крыху намаганняў – і любая вяршыня вам скарыцца.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 3 | 5 | 9 | 6 | | |
| | | | | 7 | 2 | 4 | | 5 |
| 3 | | | 1 | 4 | | 8 | | |
| | | | 7 | | 4 | | 8 | |
| 7 | | | 2 | | | | | 6 |
| | | | 6 | 3 | | 2 | 7 | |
| | 1 | | | 2 | 3 | | | |
| | | 8 | 4 | | | | 5 | |
| | | | 9 | | | 1 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by





## З часу прэзідэнцкіх выбараў рубель абваліўся на 8%

Афіцыйны курс долара на 27 жніўня – 2,6480 рубля. Пры гэтым банкі ацэньваюць яго яшчэ вышэй. Курс продажу і куплі вагаецца на ўзроўні 2,68-2,69.

Для параўнання, афіцыйны курс у дзень прэзідэнцкіх выбараў складаў 2,4482 рубля. У пачатку таргоў 26 жніўня долар пабіў гістарычны максімум да беларускага рубля.

Такім чынам, за паўмесяца пасля выбараў нацыянальная валюта дэвальвавалася ў адносінах да долара на 8%.

З еўра сітуацыя падобная. Афіцыйны курс вырас з 2,8971 да 3,1283 – тыя ж 8%.

**Аддзел інфармацыі.**





## Чытайце праз тыдзень:

• У наступным нумары чытайце гісторыі маладзечанцаў, якіх затрымалі сілавікі падчас мірных пратэстаў супраць фальсіфікацыі выбараў.

## 29 жніўня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 6-7 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +4,3°C у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +33,8°C у 1992 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 19,5 мм у 1986 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

**Падпісацца на «РГ» можна заўжды:**

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

• на месяц – 4 рублі 96 капеек,
• на квартал – 14 рублёў 88 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

• на месяц – 16 рублёў,
• на квартал – 48 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чаму вы прыйшлі на акцыю «За Беларусь!»?

20 жніўня ў Маладзечне прайшла акцыя «За Беларусь!». Карэспандэнты «РГ» асвятлялі мерапрыемства (падрабязнасці – старонка 20). Таксама нашы журналісты запісалі відэаінтэрв'ю, у якім папрасілі ўдзельнікаў патлумачыць, чаму яны прыйшлі на гэта мерапрыемства. Мы прыводзім аснойныя цытаты людзей. Поўнае відэа вы можаце паглядзець на Youtube-канале «Рэгіянальная газета».



– Я за мір, мяне гэта хвалюе, таму і прыйшла. Тут усё павінна быць добра, калі людзі збіраюцца разам. Думаю, усё ў нас будзе добра, усё атрымаецца.



– Я тут таму, што не хачу грамадзянскай вайны. Ёсць мерапрыемствы, якія заклікаюць да расколу, а гэта мерапрыемства заклікае да таго, каб грамадства не расколвалася.



– Мы хочам мірную Беларусь. Хочам, каб можна было спакойна выходзіць на вуліцу і ўсе жылі мірна.



– Веру ў нашу Беларусь. Веру, што Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка правёў справядлівыя выбары. Я пенсіянерка, своечасова атрымліваю пенсію. Мне сорамна за нашу інтэлігенцыю, якая як быдла разграміла тэатр Янкі Купалы.



– За мірную і квітнеючую Беларусь, за нашага прэзідэнта. Мы ганарымся сваёй краінай і мы не здраднікі нашай краіны. Дзякуй нашаму прэзідэнту.

**Аддзел інфармацыі.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№35 (1322) 28.08.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1425. Падпісана ў друк у 9.00 27.08.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.